

Фэст у Арэшкаве→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Родны арыент→4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 32 (3195) Год LXII Беласток, 6 жніўня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Найлепшыя вырабы — Адама Саласкевіча (22 гады), кухара, цырульніка і паэта




## Васямнаццатая «Сяброўская бяседа»

Беларускія фэсты бывалі тут раней, уже бадай 52 гады таму, кожны год беларускія, бяседна-застольныя. У апошнія гады фэст збірае публіку тыдзень пасля «Басовішча» на разгайданай песняй пад карабельнымі соснамі паляну ў Кнышынскай пушчы, званую Барыкам. «О, тут больш сёння людзей чым на «Басовішчы» было, — кажа Коля Кастэнчык, ужо сярэдняга ўзросту жыхар загарадоцкіх Меляшкоў, які тупае таксама на фестывалі музыкі маладой Беларусі, і не пакідае беларускіх фэстаў у навакольных гмінах. А бачым сёння знаёмыя цэлыя сем'і, з маладым і наймалодшым пакаленнем, з Нараўчанскай гміны, з Міхалоўскай, з самога Беластока, і з Польшчы, як Марк з-пад Любліна ці маці ксяндза Аля з-пад Варшавы. Увечары бачым ужо мора галоў гледачоў, шчыльна запаўняючых глядзельную пляцоўку і гуляючых-пікнікуючых па-за паясамі, акаляючымі пляцоўку. Проста тысячы сяброў. І каля дваццаці калектываў, вядомых з іншых фэстаў, вельмі папулярных на Беласточчыне і не толькі тут, плюс запрошаныя прафесіяналы з Беларусі — выдатныя калектывы «Купалінка», «Спадчына» і «Церніца».

— Ужо цяжка палічыць, — задумваецца Янка Карповіч — «Калакольчык» з капэлы «Хутар», які ад самага пачатку з гарадоцкай беларускай песняй. — Але калісьці гэта быў проста беларускі сямейны фэст. Цэлымі сем'ямі прыбывалі гарадчане і іх госці, з пледамі і кошычкамі, на нашу паляну, і святкавалі. Цяпер гэта сапраўды вялікі, маштабны, міжнародны фестываль. Яднае ён таксама нашу гарадоцкую грамаду, уключаецца і школа, і бібліятэка, і арганізацыі. І можам пахваліцца перш за ўсё нашымі гарадоцкімі калектывамі — ад малечаў з «Казкі», праз маладзёвыя «Гуляй душа» і «Вену», «Расспяваны Гарадок», «Хутар», залучанскія «Каліну» з «Калінкай», «Асенні ліст». Самае буйнае народнае гулянне на Падляшшы. Гулі і для душы, і для цела, з багатым пачастункам. Конкурсы — літаратурны на беларускі верш пра свята ды кулінарны — на найсмачнейшую свойскую страву. Пасля — гулянне да раніцы.

Юрка Астапчук, дырэктар Гарадоцкага цэнтра культуры — Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага, галоўны «Прымак» і арганізатар мерапрыемства: «„Сяброўская бяседа" ўжо стала паўналетняй. Гэты фестываль вельмі важны для нас, бо мы заўсёды запрашаем усіх сяброў, якія хочуць пагуляць з намі, патанцаваць, і яны дагэтуль не адмаўлялі нам. «Сяброўская бяседа» з'яўляецца адной з важнейшых падзей у міжнародным маштабе, якая прадстаўляе культурную спадчыну рэгіёна і народную творчасць з асноўным акцэнтам на культуру беларускай меншасці. Мерапрыемства мае форму канцэрта ў спалучэнні з агульнай гульнёй, якая аб'ядноўвае выканаўцаў і гледачоў. Апрача добрай забавы сустрэча дазваляе маладым людзям даведацца пра багацце мясцовага фальклору і рэгіянальных традыцый, неабходных для вызначэння нацыянальнай ідэнтычнасці, а ўсёй супольнасці — спазнанне супольных каранёў, — і заахвочваў гледачоў да спантаннага радаснага ўспрымання спеваў: «Ручкі дагары! Ляпайце! А чаго тая раздзява ізноў не ляпае?», жартаваў.

Калісь пісала Галена Ляховіч з «Расспяванага Гарадка»: *Нашая „Бяседа" адзіная, бясцэнная, і думаю, што роўных у свеце ёй няма!* і жартавала словамі свайго героя: *— Я тым часам слухаў канцэрту з бутэлькай, усіх калектываў так і не змог палічыць...* Праўда, пералік гуртоў і салістаў фестывалю заняў бы старонку. Выконвалі найчасцей адзін нумар (госці па тры), галоўны канцэрт працягваўся за сем гадзін. Праўда, нейкія «ворагі народа» папсавалі доступ электратоку, але пан Раман Нестарчук справіўся з праблемай гуку, падобна як і гурт «Лайланд», які, відаць, не спяваў з плэйбека, бо калі «згас пронд», igралі далей на сваіх інструментах, толькі крышку збянтэжаныя.

Васямнаццатую «Сяброўскую бяседу» адкрыў войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша: „Лічу «Бяседу» адкрытай!", не адмовіўшыся пералічыць у доўгім спіску шаноўных гасцей — ад святароў розных канфесій і нацыянальнасцей, дыпламатаў, палітыкаў, чыноўнікаў і самаўрадаўцаў ды не забыўшыся ўспомніць пра дасягненні Гарадоцкай гміны, якой кіруе не першы тэрмін. А госці неслі падарункі — ад медаля «Заслужаны Падляшскаму ваяводству» для «Прымакоў», гасцінца ад грэкаў, да смакоцця — караваяў і пірагоў усялякіх, бо ж калі ідзецца на бяседу, дык не з парожнімі рукамі. Найбольш было караваяў ад калектываў. А на ражнах румяніліся парасяты, на якія што і раз сыпаліся іскры феерверкаў — пад песню «Гэй сяброўская бяседа, гуляць трэба, трэба нам».

А гледачы ішлі ды ішлі ў адзін бок, увесь час, нават каля поўначы, мінаючы па каранастай сцяжынцы жменьку тых, хто спяшаўся да цягніка на старадаўнюю, цяпер голую, станцыю ў Валілах, дзе стагнаў і свяціўся ламатыў.

— Гэта беларускі пікнік, шматтысячны, многапакаленны, — адзначыў старшыня БГКТ, суарганізатар свята Ян Сычэўскі.

— Калі дырэктарам ГЦК стаў Юры Астапчук, у 2000 годзе, прыдумаў, супольна з Беларускім таварыствам, каб рабіць народную сустрэчу калектываў у сяброўскім стылі. Колішнія фэсты былі досыць сярмяжныя. Цяпер гэты фестываль з'яўляецца добрым месцам на наладжванне супрацоўніцтва паміж калектывамі, гмінамі, мясцовасцямі.

Вядучай мерапрыемства была каманда «Прымакі» з Гарадка, якая засела за славутым родным сталом разам з маладымі творцамі, між іншым, «сынком Радзікам» (Радаславам Кулешам) і «унучкай Оляй» (Аляксандрай Яроцкай) і «ўнучкам Адрыянам» — Данілюком.

На мерапрыемства можна было дабрацца з Беластока «выхадным цягніком», маляўнічым маршрутам праз Кнышынскую пушчу. Цягнік Беласток — Валілы 30 ліпеня ехаў аж пяць разоў туды і назад. З Беластока выязджаў у 9.26, 15:00, 16:02 18:24 і 19:28 (у мінулым годзе былі толькі два маршруты), выехаў назад у 23.30, усё ж няпоўны (56 гледачоў), бо большасць гледачоў засталася гуляць да канца бяседы. Зноў гудзеў ад свойскіх песень, падобна як цягнік, які вяртаўся ў сталіцу Падляшша з «Басовішча». Дастасаваны ён таксама для праезду з веласіпедамі і інвалiднымі калясками, бо і на такіх калясцях ва ўрочышча Барык пад Гарадком аматары беларускай песні.

У конкурсе на найлепшы беларускі верш пра сяброўскую бяседу перамог твор Анатоля Парэмбскага, амаль дзевяностагадовага жыхара Валіл-Станцыі. На другім месцы — твор Ганны Садоўскай з Валіл-Двара, а на трэцім — Яна Карповіча з Гарадка.

Міжнародны фестываль «Сяброўская бяседа» можна было глядзець у прамым эфіры (анлайн) з усіх куткоў Польшчы і свету праз партал transmitujemy.pl. Многія гледачы таксама пускалі ў прамым эфіры на фейсбуку свае запісы з мерапрыемства, як напрыклад тутэйшая выкладчыца матэматыкі Анна Ярмолік (яе карані ў Меляшках). Фестываль рэалізаваны быў дзякуючы гранту Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. Вельмі дапамагло арганізатарам таксама Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, паспрыяўшы ў прыездзе на Падляшша выдатных беларускіх фальклорных груп. Арганізатары: Гарадоцкая гміна, Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку. Медыя-партнёры: Тэлебачанне Беласток, Радыё Беласток, Радыё Orthodoxia, Wrota Podlasia, BiałystokOnline.pl, Transmitujemy.pl, «Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны» і «Ніва».

❖Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

Анатоль ПАРЭМБСКІ

### На «Сяброўскую бяседу-2017»

Народ творыць пагулянкі,
З радасці каб скарыстаць.
Але да «Сяброўскае бяседы»
Трэба ўсім ім дарастаць.
Па штодзённай знойнай працы,
Дзе станкоў вонь, шум машын,
Адпачыць натура кліча,
Дыхнуць водарам раслін.
За «Сяброўскую бяседу»
Дзякуем Юрку Астапчуку.
Тут штогод сябры, суседзі
Сходзяцца ў слаўным Барыку.
Ой, тады гулянкі, плясы,
А людзей — як у вуллі пчол!
Танцы, песні добрай клясы,
Сяброў групкі — што вугол.
Колькі тут гуртоў-капэлаў
З заграніцы й нашых шмат.
Кожны хоча паказацца,
Што я лепшы, чым мой брат.
Толькі чокаюцца чаркі,
За здароўе, за дружбу.
А напоі — добрай маркі,
«Мая лепша!» — чуць хвальбу.
Маладым тут рай здаецца:
Пары творацца ўміг!
А рука з рукой пляцецца,
Не злічыць колькі такіх.
А калі заглянеш ранкам —
Толькі змятая трава.
Ад уражання гулянкі
Трашчыць толькі галава...
А бываюць дні такія,
Цешылася публіка ўся,
Калі на ражне бяседным
Жарылася парася.
А «гваздзём» імпрэзы гэтай,
Што цягнула як магніт,
Бо калі ўжо вечарэла,
У неба пырснулі агні.
І чакалі мы год цэлы
І знаёмых, і сяброў,
Як «Сяброўская бяседа»
У Барыку загасціць зноў.
На год цэлы ўспаміны:
Колькі радасці было!
Паспявалі, пагулялі,
Разышліся весяло.

Пятро САКАЛОЎСКІ, Залукі

### Бяседа

Я дазнаўся ад суседа:
Ёсць Сяброўская бяседа!
Запытаўся: Дзе? Калі?
У Барыку!
Летась жа ж мы там былі.
Ну, і як там бывае?
Там спяваюць,
п'юць, гуляюць.
Доўгі час усе памятаюць.
Ну, падумаў, так зраблю:
Сваю жывіну
раней накармлю,
Прыядзенусь я святочна,
Вазьму грошай я з сабою
і паеду за табою.
Трэба душу развесяліць,
А не толькі ў марах жыць.
Ну, заехалі мы ў Барык.
А там шмат народу,
спеў і крык.
Пастаялі, паглядзелі,
А пасля за стол паселі.
І спяваем, выпіваем...
А канца – не памятаем.

9 770546 196000



# Новы палігон

На мінулым тыдні пераважная бальшыня насельнікаў Беларусі моўчкі пракаўтнула яшчэ адзін здзеклівы акт. Ні то традыцыйная рахманасць і пакорлівасць тут, ні то прыйшоўшая нарэшце летняя спёка мазгі размякчыла. У кожным разе не было ні нейкіх стыхійных пратэстаў, ні гучных заяў апазіцыйных партый, ні належнай медыйнай рэакцыі розных выданняў. А здарылася, між іншым, чарговая страшная рэч, чарговае грэбаванне інтарэсамі людзей і бяспекай краіны пад белымі крыламі і пад чорнымі хмарамі.

Кіраўнік дзяржавы прыняў указ № 259, паводле якога ўшчыльную да радыеактыўнай чарнобыльскай зоны можна будзе садзіць і сеяць кармавыя культуры, разводзіць і пасвіць хатнюю жывёлу. Нібыта задумана гэта дзеля таго, што такая мера будзе спрыяць гаспадарчай дзейнасці паблізу мяжы Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Зразумела, канешне, што гэты абсурдны ўказ ухвалілі ўсе іншыя дзяржаўныя, фактычна падначаленыя, органы.

Шкоднасць, абсурднасць і небяспеку для здароўя людзей выдатна ацаніў вядомы беларускі грамадскі дзеяч, вучоны-фізік Юрый Варонежцаў. Напомню, што ён некалі быў адказным сакратаром Камісіі Вярхоўнага Савета СССР па расследаванні прычын аварыі на Чарнобыльскай АЭС і ацэнцы дзеянняў адказных асоб у пасляаварыйны перыяд. Дык вось Варонежцаў звяртае ўвагу на тое, што дваццаць гадоў таму вучоныя Савецкага Саюза, а таксама эксперты сусветнага роўню даследавалі гэтую праблему і пастанавілі, што гэтых зямель нельга чапаць дзесяцігоддзямі, а можа і стагоддзямі. Дык навошта спатрэбіліся для сельскай гаспадаркі новыя і пры тым забруджаныя плошчы?! Беларусь займае трэцяе месца ў Еўропе па колькасці ворыўнай зямлі на душу насельніцтва і ніякай практычнай, а тым больш пільнай патрэбы пашыраць гэтую плошчу няма. Калі ж не будзе жорсткага кантролю на тэрыторыі запаведніка, там можа пайсці вытворчасць, у тым ліку і нелегальная, „брудных” прадуктаў харчавання. Хапае і таго, што ў анкалагічных дыспансерах Гомельшчыны лечацца людзі з забруджаных раёнаў, дзе спажываюцца ўжо такія прадукты. Рэнтабельнасць вытворчасці прадуктаў у „адкрытай” зоне тым больш сумніўная. А новая „забруджаная” прадукцыя будзе яшчэ шырэй распаўсюджвацца на ўсю Беларусь, так званая калектыўная доза радыяцыі яшчэ больш павысіцца. Канцэпцыя ж бяспечнага пражывання ў Беларусі прадугледжвала, што ў ахоўнай зоне не будзе ніякага землекарыстання. У крайнім разе, там можна пасадзіць лес і праз 120 гадоў яго спілаваць. Тым больш навукоўцы да канца так і не ведаюць як адбываецца размяшчэнне радыенуклідаў, іх рух, трансфармацыя. Ужо гэтага было б дастаткова, каб не прымаць такіх антычалавечых указаў і не пераўтвараць забруджаныя землі ў чарговы выпрабавальны палігон.

Аднак ці ўяўнымі патрэбамі пашырэння сельскагаспадарчых зямель кіраваліся тыя, хто вырашыў абмежаваць закрытую „зону”. Дастаткова кінуць адзін позірк на мапу, каб дапусціць — цікавасць да гэтай тэрыторыі можа быць зусім іншага характару. Гэтыя раёны Гомельскай вобласці мяжуюць з украінскай тэрыторыяй. Праз іх вельмі зручна атакаваць расейскім войскам вобласці Украіны. Ва ўмовах эскалацыі напругі і пераходу гібрыднай вайны ў гарачую стадыю — гэта вельмі зручны плацдарм для агрэсара. Бо што будуць адназначна і будаваць найперш у адкрытай „зоне” — канешне, дарогі і масты. Калі адбываецца ўсё больш супольных вайсковых расейска-беларускіх вучэнняў на тэрыторыі Беларусі, калі „зялёныя чалавечкі” ўжо з'яўляюцца ў нашай краіне, перспектыва пуцінскай экспансіі ва Украіну з „чарнобыльскай зоны” становіцца ўсё больш рэальнай. Адтуль і да Чарнігава і да самога Кіева, як кажуць у народзе, рукой дастаць. Цана ж нядаўніх перамоў і магчымых патаемных дамоў пра ўзаемадапамогу двух -шэнкаў вядомая — грош ім цана. З іншага ж боку чарговы патэнцыйны і рэальны крэдыт Масквы мог падацца для начальніка Беларусі салодкім абаранкам. Для беларускага ж народу ён у кожным разе будзе горкім.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Палеазойскае жульніцтва



Пачынае быць страшна. Бандыты, прадстаўшыся леснікамі, або леснікі дзейнічаючыя як галаварэзы, стукнулі ў чэрап рэпарцёра, запісваючага на камеру пратэсты эколагаў, якія абараняюць пушчу ад татальнай высечкі. Але тое, што для некаторых гэта «высечка», для іншых здаецца быць мудрай прафілактыкай. Караед, віноўнік усёй гэтай блытаніны, не можа тут нічога казаць. Сапраўды гэтак жа, як і пракурор, які павінен будзе вырашыць, ці тыя паводзіны — бандыцкія, ці падыктаваныя клопатам за нацыянальнае дабро, чым з'яўляюцца белавежскія лясы. Не ён тузае за шнуркі, толькі пан Зёбра, інакш прыяцель пана Шышкі. Але што яны ведаюць пра пушчу? І адзін, і другі маюцца да яе, як галушкі да адкормленай гускі.

Праўда ў тым, што там, дзе сякуць дровы, там ляцяць трэскі. Бо ж чаму не атрымаў па галаве першы з берагу эколаг? Яго не цяжка распазнаць. Сядзіць так адзін з другім прыкаваны да дрэва і спявае хрыплым галасам: «Яшчэ Пушча не прапала...». Ды што я пішу «адзін з другім» ... Белавежскіх эколагаў у белавежскіх лясах у цяперашні час больш чым зуброў і аленяў разам. Няма неабходнасці нават адсочваць іх. Хопіць уключыць механічную пілу і ўжо збягаюцца яны з усіх бакоў як мухі да гнілога мяса. Леснікам ці бандытам хопіць мухалапкі ўзяць у рукі і лупіць па іх. І што, гэта «эколагі» маюць палохаць жывёл?!. А людзям лесу ў іх нялёгкай працы мяшаць?!. Таксама, увага: грыбнікі, турысты, аматары прыроды! Каб і вам не дасталася. Як быццам выпадкова. Або невыпадкова. Бо няясна, ці грыбнік таемна не сімпатызуе абаронцам першабытнага лесу? Тээратычна сімпатызуе, бо ж не знойдзе баравіка на голай высечцы. Хіба што ён прыхільнік шампіньёнаў. Толькі што па яго пысе не відаць. А чаго там валэндацца, дзе вас не просяць? Табліцы з забаронай стаяць? Стаяць! Схаваныя камеры сочаць старанна? Сочаць! Лясныя ахоўнікі пільнуюць з кругласутачнай аховай? Поўнасцю! Самагоншчыкі ў сваіх самагонных закутках могуць адчуваць сябе ў бяспецы. Старажытная пушча, хоць яна ў «перабудове», так як раней карміла, так будзе карміць. І іх, і леснікоў, і ахоўнікаў. Апошніх, здаецца, трэба яшчэ больш. Па меншай меры, адзін ахоўнік на гектар лесу справу аформіў бы. Беспрацоўе паменшылася б на Падляшшы і ахоўны кардон вакол пушчы быў бы шчыльнейшы. А то цяпер імчацца па ёй, як і па ўсіх буйных пабудовах, небяспечныя машыны. Няўжо так цяжка зразумець, што яны ўяўляюць сабой сур'ёзную пагрозу для выпадковых асоб? Аб дурных эколагах ужо не згадваючы. Яны ніяк не могуць зразумець, што Пушча пасля рэканструкцыі стане самым мадэрным лясным комплексам у Еўропе. Будзе больш адукацыйных дарожак чым жывёл і раслін. Зноў будзем найлепшымі! Таму што лічыцца толькі «найлепшасць». Такая «największość» на меру Цэнтральнага аэрапорта, пра які мараць будаўнікі Новай Польшчы ад Балтыкі да Чорнага мора — самага вялікага, вядома, у гэтай частцы свету. Але гэта толькі пачатак. Далей яны будуць перабудоўваць суднабудаўнічую прамысловасць, злачынна ўпаўшай пры ўрадзе Туска. Польшча, хоча ці не хоча, стане вытворцам самых вялікіх караблёў у свеце. Ну і што, што яны не змогуць змясціцца ў мелкім Балтыйскім моры?!. Але яны будуць самымі вялікімі! І таму лепшымі за іншыя. Мы ўжо адзін з найбуйнейшых у свеце вытворцаў драўляных вокнаў і мэблі. Танкеры з танажам у мільён пабудаваныя з... пушчанскай драўніны — нам гэта як мора па калена! Хоць лесу будзе менш, але будзе больш паўдарэмнай сыравіны. З яго лішкамі таксама справімся. Частка змарнуецца. Што, мы не можам сабе гэта дазволіць? За акупацыі саветаў не менш бяздумна спілаваных дрэў згніло, але Пушча засталася. І так будзе цяпер. А другая частка будзе апрацавана арганічна, хі, хі, вугальнымі заводамі. Тут спяшаюся адзначыць, што дзякуючы белавежскай драўніне Польшча стане еўрапейскім лідарам па скарачэнні выкідаў $CO_2$ у атмасферу. Драўніна як экаапал менш шкодзіць Зямной атмасферы. Аднак спальваная разам з вугалем шкодзіць так сама. Але каму шкода? І яшчэ чакае нас будаванне самых лепшых дарог у свеце. Аўтастрадызацыя краіне неабходная, таму што хутка пачнецца масавая вытворчасць танных электрычных аўтамабіляў, што гарантуе віцэ-прэм'ер-празорлівец Маравецкі. Празорлівец ці не празорлівец, але сацыяльная праграма 500+ прыводзіць да лішку грошай. Дзяцей не больша, але растуць спажывецкія імкненні палякаў. Купілі новыя халадзільнікі, мэблю. Прыйшоў час мяняць ровары на аўтамабілі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# «Беларуская дыяспара ў суседняй краіне»

Ужо не думаў я вяртацца да тэмы сёмага З'езду беларусаў свету, пра які пісалі мы ў папярэднім нумары нашага тыднёвіка. Але словы некаторых самых важных у беларускай палітыцы і культуры асоб прымусілі мяне яшчэ раз вярнуцца да адвечна набалелага пытання: мы і вы. Мы — беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы, вы — беларускія чыноўнікі сённяшняй дзяржаўнай улады. Падчас прайшоўшага з'езда Алег Латышонак перад сваім дакладам выразна папрасіў усіх прысутных дэлегатаў і важных палітычных персон не называць нас дыяспарай, бо гэта непраўдзівае сцвярджэнне і мы яго проста не любім. Слухала гэтых слоў сядзячае ў першым радку важнае чыноўніцтва, між іншым, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей і намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік.

Мінае літаральна два тыдні і віцэ-міністр Васіль Чэрнік з'яўляецца на сцэне васямнаццатай «Сяброўскай бяседы» ў Барыку каля Гарадка. Выступае з прывітальным лістом ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Слухаючы ягонае выступленне ў час жывой відэатрансляцыі ў інтэрнэце, я аж жахнуўся, пачуўшы з ягоных вуснаў наступныя словы: **«У чарговы раз гэта сяброўская імпрэза з'яўляецца маштабнай ілюстрацыяй паспяховай дзейнасці беларускай дыяспары ў нашай суседняй краіне».** Паўтараючы за міністрам: у чарговы раз Вы наступаеце на тыя ж самыя граблі, якія маюць таксама разбуральныя паслядоўнасці для беларускага этнасу Беласточчыны. Такімі непрадуманымі словамі робіце з нас выхадцаў, эмігрантаў, а не гаспадароў на сваёй зямлі. Не буду тут пералічваць беларусаў Гарадоцкай зямлі, заслужаных на працягу гісторыі для агульнабеларускай культуры, палітыкі, літаратуры. Віцэ-міністру культуры павінна быць гэта вядома здаўна, асабліва таму, бо ён не з'яўляецца навічком у польска-беларускіх адносінах. Пакуль заняў пачэснае міністэрскае крэсла, чатыры гады курыраваў, між іншым, справы культурнага супрацоўніцтва ў Пасольстве Беларусі ў Рэспубліцы Польшча. Таму і не раз, і не два пабываў на Падляшшы і, як мала хто, вельмі добра арыентуецца ў складанасцях нашай беларускай нацыянальнай меншасці. Таму хіба адзіным лагічным тлумачэннем узніклай сітуацыі з'яўляецца толькі тое, што ён, відаць, перад выхадам на сцэну не прачытаў таго, што напісалі яму ў віншаванні не да канца адукаваныя ў культурных пытаннях падлізнікі беларускай працаўнікі міністэрства... культуры. А жабу прыходзіцца каўкнуць міністру. Словы то ім сказаныя, і яшчэ запісаныя.

Думаючы аднак перспектыўна і ў духу выказванняў міністра Макея і віцэ-міністра Чэрніка ў час з'езду беларусаў свету, то каб пазбегнуць такіх і падобных выказванняў і сітуацый у будучыні, прапаную ў рамках супольнага праекта гэтых двух важных, дзяржаўных ведамстваў, прафінансаваць пераклад на беларускую мову і выданне мінімум дзесяцітысячным тыражом кніжкі Беларускага гістарычнага таварыства «Historia Białorusinów Podlasia» пад рэдакцыяй прафесара Алега Латышонка. Прафесійная крыніца ведаў павінна трапіць ва ўсе бібліятэкі, вышэйшыя навуковыя, адміністрацыйна-культурныя ўстановы і цэнтры Рэспублікі Беларусь як ужо гатовы вынік таго, пра што вялася размова ў час форуму. Кніжку на беларускай мове з ахвотай прымуць і прачытаюць беларусы ва ўсіх краінах свету, зразумела, уключна з беларусамі Беласточчыны. Ну і не было б лішнім перакласці яе і выдаць мінімум тысячным тыражом на англійскай мове і пераслаць у навуковыя асяродкі ўсяго свету. Сродкі на рэалізацыю такога праекта даступныя ў беларускай дзяржаве, але не ў беларускай меншасці ў Польшчы ці ў грамадскай арганізацыі Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Калі прыглядаюся як часам прамантачваюцца сродкі на прамоцыю і дапамогу беларусам замежжа, то менавіта адной такой справай можна больш зрабіць для іх падтрымкі, але таксама і для замацавання беларускай дзяржаўнасці. Таму можа варта ўсё ж такі пераканацца ці ад слоў і абяцанняў міністраў застанецца толькі дзяжурная балбатня, ці аднак іхняе слова даражэй грошай. Прапанова складзена.

**Яўген ВАПА**

# Белфэст у расспяваным Арэшкаве

**АРЭШКАВА — вялікая вёска ў Гайнаўскай гміне. У мінулым яе жыхары займаліся аховай Белавежскай пушчы. І хаця пасля жыхары сяла сталі займацца перш за ўсё сельскагаспадарчай вытворчасцю — вырошчваннем збожжа і жывёлагадоўляй, то надалей падзараблялі, працуючы ў лесе. У вольны час вясковая моладзь любіла спяваць. Гэтую традыцыю доўга падтрымліваў славуты беларускі калектыў «Арэшкі». Арэшкаўскія спевакі неаднойчы займалі першыя месцы ў катэгорыі неапрацаванага фальклору падчас Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня», доўга расслаўлялі сваю вёску ў Польшчы і Беларусі. Аднак прыйшоў час, што жанчыны з «Арэшак» вымушаны былі спыніць дзейнасць. Калі 23 ліпеня гэтага года Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і войт Гайнаўскай гміны арганізавалі ў Арэшкаве беларускі народны фэст, жанчыны з «Арэшак» прыйшлі на мерапрыемства паслухаць родных песень, між іншым у выкананні арэшкаўскіх дзетак, згуртаваных у школьным калектыве «Вясёлыя ноткі», які таксама ўжо перамагаў на Конкурсе беларускай песні. Перад сваёй публікай першы раз як салістка калектыву «Арт-Пронар» з Нарвы выступіла Эвеліна Панасюк. Яна родам з Арэшкава і вучылася спяваць у калектыве «Незабудкі», які раней дзейнічаў у Пачатковай школе ў Арэшкаве і таксама дабіваўся поспехаў на конкурсах беларускай песні.**



З надвор'ем беларускаму фэсту ў Арэшкаве пашанцавала. Бура абмінула сяло і хаця было цёпла, камары пашкадавалі публіку, якая шматлюдна сабралася на школьнай спартыўнай пляцоўцы. Дырэктар Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве **Тамара Крайнік**, па адукацыі настаўніца біялогіі, патлумачыла мне, што апошнім часам ночы былі халоднымі і таму камары масава не развяліся.

— У Арэшкаве цяпер жывем як у горадзе. Не гадуем кароў, свіней, канешне, па-за нешматлікімі выключэннямі. Вярнуўшыся з працы, косім траву на панадворках і займаемся такімі заняткамі як жанчыны ў гарадах, што жывуць у аднасямейных дамах. Паколькі казна даплачвае яшчэ да вырошчвання збожжа, нашы мужы надалей апрацоўваюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Тыя ўчасткі нашых палёў, якія падыходзяць пад Белавежскую пушчу, пачалі ўжо аблясяцца, але гэты працэс яшчэ не адбываецца хуткімі тэмпамі, — сказала солтыс Арэшкава **Агнешка Авярчук**. — Сёння ў госці да жыхароў Арэшкава прыехалі іх дзеці і ўнукі, якія пастаянна жывуць у Гайнаўцы і іншых гарадах і таму сёння ў нас так многа моладзі. У час канікулаў дзетак таксама намнога больш у нашай вёсцы, чым падчас школьнага года, бо прыязджаюць яны да бабуль на адпачынак. Апошнім часам маладыя арэшкаўцы сталі будаваць дамы менавіта ў вёсцы, здараюцца выпадкі, што будуюцца прыезджыя. Нават паўстала новая вуліца, па якой сталі будаваць новыя дамы. Арэшкава — спакойнае сяло. Людзей прыцягвае да нас яшчэ блізкасць Белавежскай пушчы. Непублічная пачатковая школа гэта таксама козыр для нашай вёскі. Раней дзейнічалі ў нас дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы, але пасля пазакрываліся і зараз працуе толькі адна суполка, якая галоўным чынам выпускае піламатэрыялы. Вяскоўцы ездзяць на працу ў недалёкую Гайнаўку, але працуюць таксама і ў больш аддаленых прадпрыемствах і патрапяць сарганізаваць даезд туды на работу.

Калектыў школы ў Арэшкаве «Вясёлыя ноткі» зацікавіў беларускімі песнямі і танцамі жыхароў вёскі і прыезджую публіку — жыхароў Новаберазова, Старога Беразова і іншых вёсак Гайнаўскай гміны. Усе спевакі з «Вясёлых нотак» вучацца беларускай мове, прымаюць удзел у дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» і ў Конкурсе беларускай гавэнды.

— Вучні з калектыву «Вясёлыя ноткі» многа спяваюць па-беларуску. Добра, што сёння маглі паказаць свае ўмеласці. У надыходзячым школьным годзе ў нашай школе будуць займацца 20 вучняў і 8 дашкольнікаў, што дазволіць на стабільную працу школы. У гэтым годзе мы наладзілі супрацоўніцтва са школай у Лодзі, куды нядаўна ездзілі мы з вучнямі на адпачынак. У верасні лодзінскія вучні прыедуць да нас, каб запісваць нашу гаворку, фальклор і традыцыі, якія пасля выкарыстаюць для сваёй міжкультурнай адукацыі, — сказала дырэктар Пачатковай школы ў Арэшкаве **Тамара Крайнік**.

Намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ **Васіль Сегень** адзначыў актыўнасць вучняў арэшкаўскай школы ў конкурсах для школьнікаў, арганізаваных БГКТ.

— Мы ў супрацоўніцтве з войтам Гайнаўскай гміны ладзім чарговы беларускі народны фэст. Арганізуем іх многа на працягу года. Адбыліся ўжо беларускія фэсты ў Дуброве-Беластоцкай, Саколцы, Гайнаўцы (Крыначка, — А. М.), Нурцы-Станцыі і Бацiках. Беларускія фэсты, якія мы арганізуем з большай або меншай падтрымкай гмінных самаўрадаў, плануем ладзіць яшчэ ў Нараўцы, Дубічах-Царкоўных, Сямятычах, Бельску-Падляшскім, Праневічах, Мілейчычах, Чаромсе і Чорнай-Вялікай. Ідэя нашых фэстаў — несці беларускую песню і беларускую культуру ў народ. Слухачам прапануем неапрацаваны фальклор, беларускія народныя песні ў апрацоўцы і сучасную эстрадную беларускую музыку. Гэта прапановы для мясцовых жыхароў розных узростаў, — сказаў віцэ-старшыня Галоўнага праўлення БГКТ **Васіль Сегень**.

На белфэст у Арэшкава прыбылі старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, настаяцель Праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім, сакратар Гміннай управы Галіна Шыманюк, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Міраслава Маеўская-Іванюк, дырэктар Комплексу школ у Дубінах Аліна Гінשт і дырэктар Непублічнага прадпрыемства аховы здароўя ў Гайнаўцы «Гаймед» Яўген Балтрамюк, які пасяліўся ў Арэшкаве.

— Жыхары Арэшкава прасілі мяне сарганізаваць беларускі фэст і таму я запрапанавала БГКТ наладзіць тут беларускае мерапрыемства. У нашай гміне жывуць перш за ўсё беларусы і таму важныя для нас беларускія фэсты, арганізаваныя БГКТ. Мы свае гмінныя фэсты арганізуем таксама з ухілам на беларускія песні і беларускую культуру. У гэтым годзе гмінныя фэсты наладзілі мы ўжо ў Чыжыках, Старым Беразове. Два мерапрыемствы на вольным паветры арганізавалі ў Дубінах. Плануем яшчэ гмінныя фэсты ў Рэпісках, Ліпінах і Барысаўцы. Іх мэта — дайсці з нашымі песнямі і культурай у вёскі нашай гміны. У Арэшкаве плануем пачаць рамонт святліцы і разлічваем на бюджэтныя сродкі Дзяржаўных лясоў, якія падтрымліваюць нашы інвестыцыі ў наваколлі Белавежскай пушчы. З выкарыстаннем гмінных сродкаў і бюджэтных сродкаў нашай дзяржавы і Дзяржаўных лясоў мы мадэрнізавалі мясцовую дарогу з Арэшкава ў Затрастынец, новую вуліцу ў Арэшкаве, па якой будуюцца новыя дамы, плануецца мадэрнізацыя дарог Арэшкава — Сасноўка і Арэшкава — Стэпкі. У планах таксама мадэрнізацыя дарогі з Арэшкава ў Ягаднікі, але яшчэ не ведаем як атрымаецца са сродкамі на гэтую інвестыцыю, — сказала войт Гайнаўскай гміны **Люцына Смактуновіч**.

Сакратар Гміннай управы **Галіна Шыманюк** звярнула ўвагу на дапамогу мясцовага насельніцтва пры арганізацыі фэсту ў Арэшкаве. Гмінны радны з Арэшкава Мікола Жменька пахваліў рашэнне войт арганізаваць у Арэшкаве беларускі фэст, гаворачы, што такога мерапрыемства мясцовае насельніцтва чакала. Перад публікай, апрача школьнага калектыву з Арэшкава, з беларускім рэпертуарам выступілі гурты «Асенні ліст» з Гарадка, «Лайланд» з Беластока, «Рэчанька» з Козлікаў, «Оморфос» з Сямятыч і «Арт-Пронар» з Нарвы, у якім сола спявала Эвеліна Панасюк, ураджэнка Арэшкава.

— Перад арэшкаўскай публікай я выступала многа разоў у складзе школьнага калектыву «Незабудкі». Сёння я першы раз выступіла як салістка калектыву «Арт-Пронар». Было хваляванне, але прыемна было спяваць нашы песні перад сваёй публікай, — заявіла **Эвеліна Панасюк**, якая ў Арэшкаве вядомая пад дзявочым прозвішчам Дунда.

У Арэшкава быў запрошаны Беларускі казачы ансамбль «Бацька атаман» з Мінска, які некалькі гадоў раней выступаў ужо на фэстах БГКТ. Захапіў ён публіку моцнымі мужчынскімі галасамі, пявучымі казачымі песнямі і кампазіцыямі казачых танцаў. Кіраўнік ансамбля Уладзімір Куксянкоў заявіў, што творы «Бацькі атамана» сягаюць традыцыі часоў Вялікага Княства Літоўскага. Ансамбль спяваў казачыя песні не толькі на беларускай мове, але таксама паўкраінску і па-расейску. **Надзея Грушэўская**, **Марыя Скепка** і **Таццяна Гурын**, якія раней многа гадоў спявалі ў калектыве «Арэшкі», а цяпер прысутнічалі на фэсце як гледачы, моцна апладзіравалі паасобным калектывам. Сказалі мне, што падабаецца ім пачуты беларускі рэпертуар, а асабліва выступ калектыву «Рэчанька» з Козлікаў, якога песні напамінаюць ім рэпертуар «Арэшак».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Вакальны калектыў Пачатковай школы ў Арэшкаве «Вясёлыя ноткі»




Калектыў «Рэчанька» з Козлікаў

## Дэмаграфія Гайнаўскай вясковай гміны

Гайнаўская вясковая гміна займае плошчу ў 293 квадратныя кіламетры — гэта 18% усяе паверхні Гайнаўскага павета. Пераважаюць у ёй лясы. Яны займаюць 56% усёй тэрыторыі. Сельскагаспадарчых угоддзяў тут 37%. Гайнаўская вясковая гміна мяжуе з пяццю гмінамі: Белавежскай, Дубіцкай, Чыжоўскай, Нараўчанскай і Нарваўскай.

Зараз у вясковай гміне ў 37 вёсках пражывае 3987 асоб. Ад 30 чэрвеня 2016 года да 30 чэрвеня 2017 года стала менш на шэсць чалавек. Шчыльнасць насельніцтва складае 13 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 жанчын прыпадае столькі сама мужчын. У Гайнаўскай вясковай гміне пераважаюць беларусы — іх 66% усяго насельніцтва, палякаў — 34%. Існуюць тры праваслаўныя парафіі: Арэшкава, Дубіны і Новае Беразова.

Да найбольшых вёсак належаць Дубіны — 787 жыхароў, Арэшкава — 379, Старое Беразова — 269, Навасады — 274, Новае Беразова — 256, Махнатае — 194, Новае Корніна — 178, Пасечнікі Вялікія — 110, Барысаўка — 101 і Дубічы-Асочныя — 97. Менш чымсьці сто жыхароў налічваюць Чыжыкі — 88 жыхароў, Хітрая — 87, Трывежа — 80, Пасталова — 78, Рэпіска — 74, Пуціска — 66, Катоўка — 59, Барок — 46, Савіны Груд — 44, Бельшчына і Васількова — па 43, Сарочая Ножка — 42, Тапіла — 37 і Звадзецкае — 30.

Самыя малыя пасяленні гэта Буды-Лясныя (4 жыхары), Галякова Шыя (5), Дубінская Ферма (6), Скрыплева (13), Сахарэва (13), Пераходы (19), Лазіцы, Прагалі і Смаляны Садок (па 23) ды Альховая Кладка, Выгода і Чарлёнка-Лясная (па 29 жыхароў).

Найбольш паменшаў лік жыхароў у вёсках Новае Беразова — на 18, Барысаўка — на 7 і Звадзецкае — на 5 ды Катоўка, Махнатае, Рэпіска і Хітрая — ва ўсіх іх на 4. Пабольшала жыхароў у Навасадах — на 10, у Новым Корніне — на 6 ды ў Арэшкаве, Бельшчыне, Пасталове і ў Трывежы — у кожнай з іх на 4.

У чэрвені гэтага года адзінаццаць пар атрымала медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё”: Марыя і Васіль Панасюкі, Галена і Пётр Сегені, Надзея і Ян Трафімюкі, Анна і Фёдар Врублеўскія, Ніна і Рыгор Карпюкі, Яўгенія і Яўген Каролькі, Люба і Анатоль Лаеўскія, Марыя і Павел Ялозы, Вера і Мікалай Яноўскія, Зіна і Дзмітры Франкоўскія ды Валянціна і Рыгор Хамацюкі. Я, карэспандэнт „Нівы”, віншую юбіляраў і жадаю ім добрага здароўя на многія гады жыцця, шчасця і задавальнення з дзяцей і ўнукаў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Папулярны гмінны конкурс

Больш дзесяці гадоў войт Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета арганізуе конкурс на „Найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу”. У ім могуць удзельнічаць усе жыхары гміны. Конкурсная камісія ацэніць эстэтыку сялянскіх панадворкаў ды кветкавых агародчыкаў, а таксама агароды з вядомай і малавядомай агароднінай. Пераможцы атрымаюць грашовыя ўзнагароды і дыпломы на першай восеньскай сесіі Рады Нараўчанскай гміны

Конкурс стаў ужо папулярным. Ён карыстаецца даволі вялікай зацікаўленасцю жыхароў сама менш дзевяці вёсак. Сёлета ў ім удзельнічаюць жыхары 12 сялянскіх сядзіб у дзевяці вёсках: Заблотчыне, Забрадах, Міклашэве, Міхнаўцы (з гэтай вёскі жыхары ўдзельнічаюць у конкурсе ўпершыню), Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Семяноўцы, Скупаве і ў Тарнопалі. **(яц)**

# Родны арыент

## — Фестываль татарскай культуры

Што спалучае Генрыка Сянкевіча і Чарльза Бронсана? Абодва з'яўляюцца нашчадкамі татараў, якіх у свеце каля 10 мільёнаў. Раскіданыя яны па розных кутках свету, у асноўным на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. У Польшчы жыве іх амаль 5 тысяч, з чаго большасць на Падляшшы. На апошніх выходных ліпеня частку з іх можна было сустрэць на V Фестывалі татарскай культуры, якая прайшла ў Музеі вёскі.

**ФЕСТЫВАЛЬ ДЫЯЛОГУ**

Польскія татары культывуюць традыцыі сваіх продкаў. Гэтыя прэзентавалі 29 і 30 ліпеня ў Падляшскім музеі народнай культуры.

— Нам ёсць што паказаць і мы хочам дайсці да кожнага, каб нас зразумелі, каб мы не былі нейкім пытальнікам, пустым аркушам у падручніках, — адзначыў старшыня Звязу татараў РП Ян Адамовіч. — Наша гісторыя вельмі багатая. Нашы продкі моцна ўпісаліся ў гісторыю войска на тэрыторыі Польшчы. Сёння мы працягваем традыцыі нашых продкаў, але толькі ў сферы культуры: з дапамогай вершаў, музыкі танцаў і дыялогу.

У час мерапрыемства можна было паглядзець выступы многіх артыстаў, у тым ліку Татарскага танцавальна-вакальнага калектыву «Бунчук», які дзейнічае пры Фондзе Татарскага культурнага таварыства ў Беластоку. Прэзентавалі яны песні з Крыма, Башкірыі і Татарстана. Ужо амаль традыцыйна на Фестывалі татарскай культуры можна было захапляцца танцамі ў выкананні чачэнскага калектыву «Лоўзар», якія былі фіналістамі папулярнага тэлешоў «Mam talent».



■ Старшыня Звязу татараў РП Ян Адамовіч





■ Госці з Казахстана

— Заўсёды карыстаемся запрашэннем падляшскіх татараў і ахвотна выступаем на гэтым мерапрыемстве, — адзначыў трэнер і харэограф гурту «Лоўзар» Ахмед Кашаеў. — Для нас, як меншасці на Падляшшы, татары блізкія ў культурным плане. На самой справе, для нас гэта чарговая магчымасць азнаямлення людзей і з нашай чачэнскай культурай. Некаторым Чачня асацыюецца выключна з вайной, тэрарызмам. Аднак мы, як і іншыя народы, маем вельмі багатую культуру, якой людзі могуць захапляцца.

**КУЛІНАРНАЯ РАСПУСТА**

Асаблівай увагай карысталіся занятк па стральбе з лука. Кожны мог даць некалькі стрэлаў у мішэнь пад наглядам добраахвотнікаў. Для прагных ведаў фестываль прапанаваў фільмы і гістарычныя даклады пра татараў. Цікавасць таксама ўзбудзіў паказ арабскай каліграфіі, ці дэгустацыя гарбаты, зваранай па-мараканску. Той, хто не толькі хацеў паглядзець, але і нечаму навучыцца, мог прыняць удзел у майстар-класах па татарскай кухні. Напэўна ніхто не ад'ехаў з мерапрыемства галодным — на кожным кроку можна было пакаштаваць арыентальных ласункаў.

— Сёння найбольшым зацікаўленнем карыстаюцца чабурэкі і перакачэўнік, — сказала Альжбета Мухля з Сухаволі. — Таксама госці вельмі часта пытаюць пра халву. Мы, татары, робім яе з масла, мукі і мёду.

**КАНІ Ў ГАЛОПЕ, СОКАЛЫ НА НЕБЕ**

Вялікую зацікаўленасць выклікаў паказ Эскадрона кавалерыі Войска Польскага. Перад гледачамі прэзентаваўся таксама Эскадрон кавалерыі ім. 10 Палка літоўскіх уланаў. Са сцэны плылі татарскія песні ў выкананні Караліны Ціхай і Барта Палыгі. Прысутныя маглі таксама ўбачыць паказ соў і драпежных птушак з сакалярні Падляшскага музея народнай культуры. Гэтым асабліва зацікавіўся амбасадар Казахстана ў Польшчы, які ўпершыню прыняў удзел у мерапрыемстве.

— Хочам завязаць бліжэйшае супрацоўніцтва і адначасова тут, на Фестывалі татарскай культуры, прамаваць Казахстан, — адзначыў амбасадар Казахстана ў Польшчы Маргулан Баймухан. — Ужо ведаем, што абмяняемся вопытам адносна сакольніцтва. Мы таксама маем доўгія традыцыі, таму ўжо запрасілі мы падляшскіх сакольнікаў да нас. Таксама магчыма, што ўжо ў наступным годзе нашы лучнікі з казахскіх стэпаў запрэзентуюць свае здольнасці тут, на Падляшшы. Польскія татары — гэта братні народ для казахаў. Мы маем супольную гісторыю і генеалогію.

Старшыня Звязу татараў у РП Ян Адамовіч не хаваў задавальнення ад поспеху фестывалю, у якім прынялі ўдзел сотні гасцей з Польшчы і замежжа. — Ідэя арганізаваць такі фестываль нарадзілася даўно. З году ў год мы стараемся зрабіць цікавую праграму, нягледзячы на тое, што на працягу двух дзён немагчыма паказаць усё! Я вельмі рады, што ўсё больш і больш людзей прымае ўдзел у нашым мерапрыемстве.

І сапраўды, на V Фестываль татарскай культуры з'ехаліся госці з Казахстана і татары Калінінграда. На жаль, сёлета ізноў не было татараў з Беларусі.

— Польскія, беларускія, літоўскія татары гэта тая ж самая сям'я. Падзяліў нас Сталін, — сказаў Ян Адамовіч. — Можа беларускія татары будуць у наступным годзе.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў



працяг з 31 н-ра «Нівы»

■ Вёска Лука перад затапленнем. Фота з архіва «Нівы»

**ЧЫСТАЯ АХВОТА**

Хаця з адказу спадарыні Харкевіч Ваяводскай управай меліярацыі і водных установак вынікае, што ўчасткі, якія знаходзяцца ў іхняй уласнасці як частка чашы вадасховішча — пакольki яны «падмоклыя» і «пагражае ім заліццё» ў выпадку падняцця хвалі Семяноўскага возера, можа іх арандаваць, крэдытаваць і карыстацца хто хоча. Перш за ўсё, напрыклад, Управа Нараўчанскай гміны. Гэта перш за ўсё ўчастак № 1459/1, якім яна распараджаецца і прымае на яго датацыі, падобна як і на ўчастак № 1457. Гэта грунты, якія былі экспрапрываваныя, сталі ўласнасцю Дзяржаўнай казны, а афіцыйны ўласнік і карыстальнік гэта ВУМіВУ, юрыдычная наследніца Ваяводскай управы сельскагаспадарчых інвестыцый у Беластоку. Знаходзяцца яны ў буфернай зоне — ахоўнай зоне вады. А арэнда магчымая, як ВУМіВУ інфармуе яшчэ раз на пытанне зацікаўленых асоб 20 ліпеня 2016 г., у выпадку «запланаваных інвестыцыйных дзеянняў, звязаных з актывізацыяй прылеглых тэрыторый пры ўспрыняцці запісаў пра мясцовыя планы прасторавага добраўпарадкавання». І дадаюць (з подпісам кіраўніка дамбы, магістра інжынера Лявона Хлябіча, ураджэнца Рыбакоў), што ў сувязі з вышэйсказаным і ў адносінах да папярэдніх запытаў (Уладзіслава Бірыцкага), што не плануецца аддача ў арэнду вышэйуказаных участкаў «толькі з чыстай ахвоты іх арандавання, а не для рэалізацыі мэт, аб якіх успомнена вышэй». Удакладняецца ў адказе на наступны яго запыт (падпісаным мгр Янам Пучынскім), што на тыя ўчасткі маюцца чатыры дамовы — з Нараўчанскай гмінай пра пабудову трох рэкрэацыйных памостаў і схільні з бетонных пліт, другая — наконт пабудовы амфітэатра з глядзельнай часткай, комплексу спартыўных пляцовак, пaрусной базы і пляжа, і дзве дамовы з панам Янам Вэрэшчынскім пра пабудову трох памостаў на драўлянай канструкцыі і вядзенне паслугоўвай дзейнасці, звязанай з адпачынкам на вадзе.

Яшчэ 7.12.2012 г. Агенцтва рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі, Бюро кантролю і бяспекі Падляшскага сельскагаспадарчага абароту ўдакладняла, што на гэтых участках вялікую частку займае паверхня для вядзення сельскай гаспадаркі — на ўчастку № 1459/1 — 7,44 гектары, а на ўчастку № 1457 — 0,91 гектара. На іншыя пастаўленыя пытанні АРіМСГ адмаўляецца адказаць, таму што ліст не выяўляе праўнай падставы для таго, каб Агенцтва мусіла даць адказ, пакольki мае абавязак «захаваць дабро інтарэсу асоб, якіх яны датычаць, а могуць стаць даступным толькі па заказе Паліцыі, Суда і Пракуратуры». Значыць, калі запытваючы дакажа, што справы падазроныя?..

Нараўчанская гміна прапануе на аўкцыёнах участкі з-над Семяноўскага вадасховішча, з прызначэннем на паслуговае, дачнае і турыстычнае будаўніцтва. Набыць іх можа той, хто мае грошы і пераможа іншых зацікаўленых сваёй цаной. На аўкцыёне ў маі 2017 г. прапанаваліся ўчасткі ў Луцэ — на Старым Двары — забяспечаныя ў медыя ўчасткі велічынёй ад 800 кв.м да 1500 кв.м, прызначаныя ў мясцовым плане добраўпарадкавання пад жыллёвае і дачнае будаўніцтва (стартавая цана на аўкцыёне 40 зл. за кв. метр.) У Луцэ II — участкі паверхняй па каля 1000 кв.метраў, у адлегласці каля 400 метраў ад вадасховішча; у Новай Луцэ (ад 420 кв. м да 2 500 кв. м) пад жыллёвае будаўніцтва. На «гатэльным Старым Двары», які да смерці не пакінуў Ян Рыгаровіч, тэрыторыя велічынёй 2,5 га — абшар пад гатэльныя і спартыўна-адпачынковыя паслугі — лакалізацыя **непасрэдна над берагам вадасховішча** — стартавая цана ад 50 зл. за кв. м. Крыху далей — каля 400 метраў ад возера — у Тарнопалі на Круглікy — участкі паверхняй ад 1 100 кв. м да 3 200 кв. м. — на жыллёвае і дачнае будаўніцтва, стартавая цана ад 38 за кв.м. У Слабодцы — участкі паверхняй ад 980 кв. м да 1 100 кв. м — прызначаныя на паслуговае, дачнае і турыстычнае будаўніцтва. У Луцэ — **непасрэдна на беразе** — абшар велічынёй **32 гектараў** - тэрыторыя прызначаная на поле для гульні ў гольф. Спорт, як ні кажаце, для багатых...

14 красавіка 2017 г. войт Нараўчанскай гміны прадаваў на аўкцыёне лучанскія ўчасткі — № 1342 — 3 000 кв. м, стартавая цана 85 440 зл, на тэрыторыі матэля разам з тэхнічным абсталяваннем; № 1520 — 759 кв. м, стартавая цана 16 550 зл., для пабудовы пансіяната; № 1532 — 780 кв.м, стартавая цана 17 000 зл, для дачнай пабудовы; № 1648 — 560 кв.м, стартавая цана 14 500 зл., для індывідуальнай пабудовы — дачнай і пансіянатаў; № 1649 — 505 кв.м, стартавая цана 13 130 зл., для пабудовы «індывідуальнай рэкрэацыі» (дачнай) і пансіяната, № 1055/11 і 1218/8 — 975 кв.м, стартавая цана 27 500 зл, на дачную пабудову; № 1054/17 — 809 кв. м, стартавая цана 25 700 зл., на дачную пабудову ў азяленёнай зоне, № 1055/10 — 809 кв. м, стартавая цана 25 700 зл., на дачную пабудову ў азяленёнай зоне; № 1056/16, 1056/18 і 1218/9-988 кв. м, стартавая цана 25 8 00 зл, на дачную пабудову; № 1056/17 і 1056/19-1000 кв. м, стартавая цана 32 000 зл., на дачную пабудову; № 1057/6 і 1057/11 — 1122 кв. м, стартавая цана 35 900 зл., на дачную пабудову; № 1057/8 — 1290 кв. м, стартавая цана 41 300 зл., на дачную пабудову; № 1056/14 — 1261 кв. м, стартавая цана 40 300 зл., на дачную пабудову... Падаецца толькі стартавая цана — перамагае ў аўкцыёне той, хто канчаткова дае найбольш...

Хацелася б спытацца, колькі за тыя ўчасткі, з якіх выгналі спрадвечных уладальнікаў гэтай зямлі, атрымалі яны кампенсацыі? і ці ведаюць яны ці іх спадкаемцы, каму тая зямля прадаецца? Ці перш за ўсё праінфармаваны яны пра такое дзеянне, якое робіць гмінная ўправа з войтам, распараджаючыся зямлёй, якая была экспрапрыяваная сілай, а не стала неабходнай для рэалізацыі плана польскай «камуны» дзеля ашчаслівлення народу і забеспячэння яго ў чыстую ваду (і не толькі ў гэта). А і не так хутка і не з такімі грашыма спяшаюцца інвестары — той лучанскі «гатэльны ўчастак з забеспячэннем» (1342) прапанавалі на папярэднім аўкцыёне, і неяк ніхто яго не набыў. І за кожным разам адзначаецца на аб'яве, што да гэтых участкаў ніхто не мае прэтэнзіі і «не абцяжараны яны абмежаванымі рэчавымі правамі і абмежаваннямі ў распараджэнні». Можа, хтосьці, хто цікавіцца ўчасткамі (былі яны малюсенькімі ў перанаселеных «Хінах» (як называлі гэтую вялікую вёску Луку суседзі), цяпер ужо спалучанымі, як Уладзіслаў Бірыцкі і яго жонка Івона, якія хочуць **адкупіць бацькаўшчыну**, — перагляне нумарацыю і ўспомніць месца, дзе стаяла родная хата і гумны, дзе раслі агарод і садок, дзе былі палеткі?.. Не, пра гэта павінны праінфармаваць іх гмінныя ўлады. Бо перш за ўсё спадкаемцы маюць права на тое, каб атрымаць зямлю назад, як нявыкарыстаную ў плане «пабудовы Семяноўскага вадасховішча і канала Нарва — Супрасль».

Важны дакументы пра тое, што наша. Ян Рыгаровіч са Старога Двара, калі пад канец васьмідзясятых напаўнялі вадасховішча вадою, пільнаваў папер на сваё і не рушыўся са сваёй хаты. І грошай не хацеў, і не баяўся, што падтопяць. Ведаў, што пад параг вада яму не падыдзе, памятаючы, што вылічаў інжынер Шура Мядзведзь. Ян Рыгаровіч згадзіўся спачатку ўзяць кампенсацыю за зямлю, якая апынулася пад вадасховішчам. Але сеў быў у хаце, нацiснуў вушанку на вочы, і ўсё. Хваля затрымалася 50 метраў перад яго дваром.

Усюды наша прападала! — махалі рукой пані Зося ці дзед Міхась. Колькі там выпала на кожнага! Ці ўжо ўсе канцы ў ваду пайшлі?.. Дзе тое, што належала да Харкевічаў, Грэсюкоў, Красніцкіх, Карапьчукоў, Лобачаў, Лукшаў, Новікаў, Шульскіх, Садоўскіх, Стоцкіх, Салавеяў, Васільчыкаў, Жукоўскіх, Анцуткаў, Бірыцкіх, Байчукоў, Бандарукоў, Буйкаў, Дабжынскіх, Грыгольцаў, Грыцоў, Канажэўскіх, Лаўнічукоў, Місевічаў, Станкевічаў, Трахімчукоў, Скепкаў, Самоцікаў, Засімаў, Рыгаровічаў, Ляшчукоў, Смольскіх, Пакутнікаў?.. Ці іхнія нашчадкі могуць назад вярнуць свой кавалак зямлі і паставіць на родным хату? Паспрабавалі гэта зрабіць Удадзіслаў і Івона Бірыцкія...

(працяг будзе)

❖ Міра ЛУКША

## Людзі перасталі апранаць кажухі

**Прычынай замірання некаторых прафесій можа стаць змена клімату. Так сталася з кушнярамі, асабліва футравымі кушнярамі. Размова з Міраславам ВАСІЛЕЎСКІМ, 1967 года нараджэння, з Орлі.**



**— Ваша прафесійная адукацыя?..**

— Скончыў трохгадовае прафесіянальнае вучылішча ў Бельску-Падляшскім. У той час было мала ахвотных стаць футравым кушнерам. Цягам школьнага года ў другім і трэцім класах пасылалі на курсы ў Радам. Была нават праблема сабраць трыццаць кандыдатаў з усёй краіны на тыя курсы. Два гады камплектавалі, каб сарганізаваць. Курсы першай ступені доўжыліся паўтара месяца, а другой — месяц.

**— Адкуль у Вас такое зацікаўленне? Гэта ж нялёгкая прафесія.**

— Можа было нешта ў генах па маці Але, якая была краўчыхай. Тут патрэбныя лоўкасць і цярплівасць. Шыццё футра гэта няпростая справа. Ёсць розныя ўзоры, швы, тыпы... На футра трэба прысвяціць тыдзень. Футра былі практычныя і цёплыя, а не толькі дзеля моды, як гэта робяць праекціроўшчыкі. І каб футра служыла многа гадоў. Калісь футра былі з розных жывёл, натуральныя, штучных не ведалі. Насілі іх жанчыны рознага ўзросту.

**— Калісь футра было і паказальнікам заможнасці?..**

— Футра былі і ёсць дарагія, гэта раскоша. Калісь мой бацька Уладзімір зарабляў за месяц у кафлярні столькі, колькі каштавалі дзве шкуры з нутры. А на адно футра трэба было дванццаць адну такую шкуру.

**— Цяпер рэдка можна сустрэць жанчыну ў футры. Ці прамінула мода, ці звялася прафесія?**

— Перш за ўсё змяніліся, пацяплелі зімы. Людзі перасталі хадзіць нават у кажухах. Кушнерства страціла сэнс. Да таго ж з'явілася такая асаблівая, нездаровая канкурэнцыя. Пры камуне шкуры з нутрый завозілі ў кантэйнерах з Бразіліі, бо там нутрыі жывуць дзіка, яны лічацца шкоднікамі, непажаданымі. Яны былі не надта якасныя, таму танныя. Па гэтай прычыне падалі нашы фермы і скупкі. Скупкі паніжалі жывёлаводам цэны, бо не хацелі прымаць. Шкурка стала няварта вырабу.

**— Помню, што ў 1970-х гадах некаторыя людзі ў Орлі і наваколлі гадавалі нутрый.**

— Мае бацькі таксама мелі прызнаны гадавальнік нутрый. Займаліся гэтым доўга, вывелі сваю пароду. Былі планы, але звяліся.

**— Ці мяса з нутрыі смачнае?**

— Вядома. Здаровае і карыснае (без хваста), можа нават лепшае ад трусінага. Смачная з яго каўбаса. Калісь скуплялі хвасты з нутрый, бо ў іх было многа сухажылля, якое ўжывалі як ніткі ў час хірургічных аперацый. Таксама ў некаторых рэстаранах сервіравалі мяса нутрый (гуляш, пячонка...) пад назвай bobrzyk.

Размаўляў і фатаграфаваў Міхал МІНЦЭВІЧ



зорка
для дзяцей і моладзі

Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl



Кася Паўлючук

# Дар продкаў у перыяд постмадэрнізму

Прадзенне воўны, марудная апрацоўка ільну. Ад раслінкі да традыцыйнага ільнянога палатна, ад воўны да гладкага сукна. Вышываныя беларускімі народнымі ўзорамі ручнікі, шыццё традыцыйных касцюмаў, у якіх хадзілі старажытныя беларусы, пляценне палосак (краек), а таксама пячэнне ў кафельнай печцы свойскага хлеба...

Усё гэта гучыць як аповед з іншага стагоддзя. Уявіце сабе асобу, якая ў наш час выконвае такія працы. Вы пэўна «ўбачыце» васьмідзесяцігадовую бабулю, якая сядзіць за калаўроткам.

Вы памыляецеся!

Гэта маладая, прыгожая дзяўчына сядзіць за кроснамі і тчэ ручнікі для людзей XXI стагоддзя



Інэса Гапанюк

— Кася Паўлючук з Сутна каля Мельніка.

Яна займаецца гэтым ужо некалькі гадоў. Кася зацікавілася беларускай культурай і старымі абрадамі пяць гадоў таму, калі папала на «Злёт славян»:

— Я тады захапілася спевам беларускай этнаграфічнай групы з Мінска. Я была пад вялікім уражаннем іх моцных, чыстых галасоў. Так заслухалася, што па спіне бегалі дрыжыкі. А іх ільняныя касцюмы з багатай вышыўкай таксама былі для мяне незвычайнымі. Мяне гэта ўсё зачаравала! Я наладзіла кантакт з гэтай групай. Даведалася шмат цікавых рэчаў на тэму беларускага фальклору. Пасля вяртання да хаты я стала шукаць старыя рэчы на гарышчы ў бабулі. Распытала ў бабулі пра яе маладыя гады. Што тады рабілі ў хаце? Якія гатавалі стравы? Якія песні спявалі ў нас на Падляшшы? Так пачалася мая прыгода з этнаграфіяй і я стала займацца «нетыповымі» заняткамі.

Ну, аднак, ткацтва, вышыўка, апрацоўка ільну ці воўны гэта доўгая і карпатлівая праца. Мы здзіўляемся, як у такой маладой дзяўчыны столькі энергіі і захаплення да такой справы?

— Гэта залежыць ад чалавека, — кажа Кася. — Мне патрэбная мэта ў жыцці. А этнаграфію я проста кахаю. Беларуская культура блізкая майму сэрцу, мы павінны быць удзячнымі за такі дар нашым продкам. Гэта яны стварылі для нас аснову цяперашняга жыцця і мы павінны іх шанаваць, захоўваць для наступных пакаленняў.

Кася Паўлючук вельмі сціплая асоба:

— Калі я канчаю нейкую рэч, напрыклад, беларускую кашулю ці ручнік, я баюся, што не зрабіла таго так добра, як рабілі нашы бабулі. Я магу толькі паспрабаваць з імі параўняцца. Але заўсёды стараюся як найлепш дасягнуць ідэал у час працы.

Кася ў пэўным сэнсе чарадзейка. У час працы над палатном або вышыўкай, следам нашых бабуль, яна спявае белым голасам старыя падляшскія пені. Яна таксама вядзе старонку на фейсбуку «Крам Джазгі», дзе галерэя яе твораў. Я асабіста вельмі цаню знаёмства з Касяй Паўлючук. Такія асобы напамінаюць нам пра ўражлівасць і эстэтычны густ нашых продкаў і нас саміх.

*Інэса Гапанюк,*
*«Васілёк»,*
*выпускніца бельскай «тройкі»*

## УВАГА КОНКУРС!
## № 32-17

**Я ў космас уздымаюся,**
**На хвост абапіраюся.**
**Р.....**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 14 жніўня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 29-17: лён. Узнагароду, набор паштовак з беларускімі старажытнымі будоўлямі, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

**Паўліна Ёдла,**
«Васілёк», вучаніца бельскай «тройкі»

## Слёзы

Капаюць слёзы
на чырвоную спадніцу.
Яна цэлая мокрая.
Ніхто не прыходзіць,
не затрымліваецца,
не спытае – што са мной?
Я яшчэ маладая,
але штосьць разумею.

# Ніколі не спёк салодкіх пірагоў

**Размова з Яўгенам Вапам, галоўным рэдактарам «Нівы» і Радыё Рацыя, знакамітым фельетаністам, госцем XXXI Сустрэч «Зоркі».**

**«Васілёк»:** — *Якія Вы любіце варыць стравы?*

**Яўген Вапа:** — Я люблю варыць усё, што не называецца выпечкай піpoжных. Увогуле, да піpoжнага я не набліжаюся. Не ўмею сабе ўявіць, як яно вырастае. Вельмі люблю варыць супы, кашу, раблю ўсякія салаты. Ніколі ў жыцці я не спёк салодкіх пірагоў. Так што найбольш люблю варыць супы. З мяса перадусім займаюся баранінай. Часам пяку качку або гусь.

**В:** — *Хто навучыў Вас варыць?*

**ЯВ:** — Спачатку я прыглядаўся як варыла мая мама. Потым маёй настаўніцай стала жыццё. У студэнцкія гады трэба было самому варыць і мне гэта спадабалася, уцягнула. Тады быў такі час, што трэба было зварыць «нешта з нічога».

**В:** — *Ці больш любіце есці з сябрамі, ці асобна?*






**ЯВ:** — Бясспрэчна, з сябрамі!

**В:** — *А як распазнаяце смак беларускай культуры? Што Вас цікавіць?*

**ЯВ:** — Культура — вельмі шырокае паняцце. Самае цікавае — быць і карыстацца культурай. Галоўнае, каб кожны дзень, кожную хвіліну жыць з культурай.

**В:** — *Кажуць, што прысмак беларускай культуры на Падляшшы гэта «Бязмежжа», літаратурны семінар, у якім удзельнічаюць паэты і празаікі з Польшчы і Беларусі. Як мы можам папасці на «Бязмежжа»?*

**ЯВ:** — Гэта справа, аб якой раскажу вам у некалькіх сказах. Мусіце дасягнуць век дарослацці і заявіць пра сябе сістэматычным літаратурным пісаннем. Гэта адна справа. Другі варыянт, калі вы можаце папасці на «Бязмежжа», гэта тады, калі станеце журналістамі і будзеце пра гэта пісаць.

**В: Дзякуем за размову!**

**ЯВ:** — Дзякую!



# Куды ідзем?

Ідзем наперад, нягледзячы на іншых. Пакідаем блізкіх, каб стварыць больш месца для сябе. Жывем у пустой прасторы, дзе толькі адна істота — мы. Уся сутнасць гэтага месца заключаецца ў адным — нашых думках. Прастора пашыраецца, калі мы блізка людзей.

У іншым выпадку яна зацiскаецца і душыць нас, знікаюць усмешкі, а мы становімся сумнымі людзьмі.

Чырвонае неба, туман, ранак.
Радасць, святло, поўдзень.
Поўдзень, змярканне, вечар.
Свет засынае, а мы — не.
Ноч...

**Максім ФІЁНІК,**
***«(не) Тоўстая газета»***






**Начныя шахматныя змаганні з Іванкам Карсунскім**

**Іван КАРСУНСКІ**

## Белы слон

На белым полі,
белы слон стаіць.
І тут!
Пачатак партыі:
— Пешка e4, — крыкнуў кароль.
— Ну вось! — думае слон, —
Ужо пашліце мяне на c4,
Будзе там шанец.
Кароль перамог праціўніка
іншым спосабам.
— Ход пешкай на d3 — гэта дурна, —
Здзівіліся ўсе.
А праз пару хадоў слон ляцеў хутчэй
ветру ды ладдзі збіў трыумфальна.
З гэтай пары слон штурмуе і абараняе.

# Польска-беларуская крыжаванка № 32-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 28-17:**

Дынастыя, кіно, тавар, град, біржа, Ала, адпачынак, аса, чара, пекар. Забава, від, карп, іржа, ачоп, стог, ранак, паласа, Дакар.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вікторыя Гаць** і **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Skup / Mech | | | | | | |
| Cisza | Kasza | | Podkład kolejowy | | Dźwig / Nacja | | Para | | Jarzębina / Rdza | |
| Korona | | | | | | | Krok | | | |
| | | | | | | | | | La | |
| Kołysanka | | | | | | | | Chińskie imę | | |
| | | Szaniec | | | | | | Jan | | |
| Bierz | Szklanka | | | | | | | | | |



Міхась АНДРАСЮК

# ДРЭВА

**(працяг)**

Аднае раніцы зямля смялей павярнулася тварам да сонца і незлічоныя, жвавыя струменьчыкі вясенніх разводдзяў дайшлі да берагоў спакойнага возера. Пасталелі, прыпынілі крок, аддаючы сябе лянівай, летняй дрымоце.

Люблю глядзець, як на сонечных прутках травень вяжа зялёныя шапачкі бярозам, і павеўныя шалікі вербам, як з раніцы да вечара ў ліпеньскіх пальцах мільгае кручок, каб ноччу абсыпаць нашу старую ліпу пахучымі мёдам карункамі.

— Падмурак ты які задумаў? — баба Вера пяшчотна лашчыць летняе сонца, што даверлівай птушкай прысела на квяцістай хустцы. А сонца сёння — дзе ні глянь. Узлазіць на высокія козлы, перамервае крокамі раскладзеныя на сталюгах — апошнія ўжо — доўгія бярвенні. Укленчвае, запускае вока ў расліл, упэўніваецца, ці добра спраўляецца верхні пільшчык, ці простай свечкай аддзяляюцца наваскаваныя брусы. Два ніжнія пільшчыкі стаяць у траве, цягнуць пілу ўніз, верхні падцягвае яе, пускае назад, ветрык рассыпае жоўтыя апілкі на галовы, на плечы, і на траву. Калі піла стамляецца, калі прытупляюцца сталёвыя зубкі, сонца падскоквае маланкай і залатымі напільнікамі падвострывае іх, вяртае сілу.

— Падмурак будзе з бетону. Глыбока трэба заліць бетон, каб мароз не праравуўся, — бацька жмурыць вочы, зазірае ў зіму — сёння яна далёка, за мяжой восені, але ж няўхільная, рана ці позна з'явіцца ў наш новы дом.

— І каб ніякая бура не зварухнула нас з гэтага месца, — дадае баба Вера. — Мы з Дзмітрыем стаўлялі хатку на камянях. Ты малы быў, але ж напэўна памятаеш — стаяла ў лесе пад Старыной, на беразе возера. Не паспелі прыжыцца, як прыйшлі немцы і выкінулі нас у вёску. Каб партызаны не кармілі ся. Нядрэнныя былі немцы, маглі і спаліць, а бачыш, не спалілі. Пераехалі мы з хаткай сюды, на дзедаў панадворак і склалі яе нанава. Таксама на камянях паставілі. Час такі быў, неспакойны, не дазваляў людзям укараніцца на адным месцы. А вось тут мы ўжо — назаўсёды. Застанешся тут, праўда? — яе пальцы казычуць маё вуха, прагульваюцца ў валасах.

Восеньская ліпа кладзе цень на прамавугольнік — дзесяць метраў на сем, адрэзаны з бязмежнай паласы сусвету, абведзены бетоннай мяжой фундамента.

— Тут будзе кухня, — кажа маці. — А тут стане печ, абавязкова з белай кафлі. Там вялікі пакой, там малы, у кожным сцяноўка, таксама кафельныя. Кладоўка праз сцяну з кухняй, а сені і ўваход ад панадворка. І другі ўваход праз ганак ад вуліцы.

— Гаспадар, заўтра пачынаецца поўня, варта б закласці першы вянец зруба. Каб хлеб і шчасце поўніліся ў хаце. Думай, што з ліпай рабіць. Пакінем — галлё на дах насунецца, год — два — трэ і чорт чарапіцу панясе. А карані, як возьмуцца за фундамент, дык гатовыя падняць яго разам са сценамі. Што рабіць? — цясляр Сямён пастуквае абухам сякеркі ў ліпавы ствол.

— Сам не ведаю, заўсёды была тут, — бацька чухае патыліцу, глядзіць на маці, але яна толькі паўтарае пытанне:

— Што з ліпай рабіць?

— Праўда, колькі сябе памятаю, яна была тут, — баба Вера задзірае галаву, складвае далонь у казырок, шнырыць вачыма ў зялёнай блытаніне лісця. — Кажуць, Дзмітрыеў дзед пасадзіў. Высокая.

— Высокая, праўда, — згаджаецца стары цясляр. — Метраў ці не дваццаць уверх будзе.

— На маё вока да дваццаці пяці дацягвае, — папраўляе старога малады памочнік.

— Ні дваццаць, ні дваццаць пяць. Пятнаццаць, не больш, — заінтрыгаваны задзёртымі да неба галовамі дзед Ляксій пакінуў сваю лавачку, падышоў да нас. — Пад сорак — як кажуць леснікі, бо на свае вочы я не бачыў — сягае найвышэйшая ў пушчы. А тут дай Бог пятнаццаць, дык усё.

— Пятнаццаць? А я кажу — дваццаць пяць, — не саступае памочнік цесляра.

— Ага, ты мне, пушчанскаму скажаш, — пырхае дзед. — Гэта адсюль, з зямлі ўсё выглядае высока. Воблакі высока, неба далёка, а пакладзі на зямлю, перамерай крокамі і атрымаецца куды бліжэй. А ліпу я б пакінуў, не так даўно ёй сто гадоў споўнілася. Яшчэ сто, а то і дзвесце магла б прастаяць.

— Кажуць, у ліпу ніколі гром не б'е. Праўда то? — маці глядзіць на бабу Веру разгубленымі вачыма. — Мо няхай застанецца?

— Ой, няпраўда. Памятаеце, не так жа даўно было, як за вёскай ляснула па ліпе? А Бог хацеў, Маруся Дарафейчанка там якраз ад дажджу схавалася. Паклалі яе ў труну ў белай сукенцы, маладая была, — баба Вера выцірае слязу ражком хустачкі. — У ляшчыну не б'е, пад ляшчынай некалі ад пераследу Божая Маці з Дзіцяткам хавалася і таму ніколі па ёй маланка не ўдарыць.

— Ну, што, гаспадар? Спускаем ці застаецца? Вырашай, а то і да зімы не справімся. Насамрэч, варта было раней падумаць, пакуль залілі фундамент. А стане хата, будзе дадатковая камплікацыя. Кажу, каб ведалі.

— А ў другіх вёсках як — зрэзваюць, ці пакідаюць? Вам відней, не першы ж дом стаўляеце.

— Часцей зрэзваюць. Дамы цяпер багатыя, чарапіцай крытыя, або шыферам. Старому, вялікаму дрэву не месца побач з новым домам. Ды і засланяе дом, пабудаваў прыгажосць і што з таго, калі людзі не бачаць.

— Спускаем, — згаджаецца бацька і цясляр бярэ камандаванне ў свае рукі.

— Падсячы трэба адзін бок, той ад вуліцы, а то пойдзе куды заўгодна. На Пракопаў панадворак грохне, або і на наш фундамент і будзь здароў. Добра падсячы і на ўсялякі выпадак заматаць вяроўку за чубок. Калі б што-та не так, пацягнем, пакладзем упоперак вуліцы.

Калі і адкуль з'явіўся гэты чалавек, не ведаю. Сівагаловы, непагалены стаіць пад белай сцяной Пракопавай мураванкі, чутка прыслухоўваецца да мужчынскай гамонкі, сочыць за памочнікам старога цесляра, што, перавязаўшы пояс тоўстай вяроўкай ускараскваецца ўсё вышэй, як у ваду ныряе ў ліпавую крону. Завязвае вяроўку ў зялёнай чупрыне і спускаецца на зямлю.

— На, сячы тут во, глыбока, сантыметраў на трыццаць, — стары майстар перадае сякеру маладому.

Не паспяваю змігнуць вокам, як незнаёмы мужчына з'яўляецца пад ліпай. Белая, доўгая ільняная кашуля навыпуск паверх штаноў, падпярэзаная поясам, выразна аддзяляецца ад цёмнай, абымшэлай кары. „Калі ж паспеў?" — здзіўляюся і толькі цяпер бачу яго босыя ногі.

Памочнік цесляра, папляваўшы на далоні, заціскае пальцы на тапарышчы, бярэ ўзмах.

— Ты пасадзіў? Не чапай! — чалавек рассоўвае плечы, запіраецца спінай аб ліпавы ствол.

— Стойце! Зарубаеце чалавека, — маё дзіцячае цела пераўвасабляецца ў крык, ляціць па-над брукаванай вуліцай у другі канец вёскі, на Даліну, за Мелянінам адштурхоўваецца ад зялёнай сцяны бэзу, вяртаецца. Падскокваю, стараюся ўхапіць рукаў маладога цесляра.

Узнятая да воблакаў сякера на адзін міг прыпыняецца, завісае, рукаў выслізгвае з пальцаў і вострае лязо пралятае цераз ільняную кашулю, як птушка праз чыстае паветра.

— Ну і дзівак твой малы, — цесляры глядзяць на бацьку. — Што ён убачыў? Які чалавек? Дзе?

— Там, — паказваю рукой на язмінавы куст. — Там ён. Няўжо не бачыце?

Цесляры рагочуць, бацька абмервае мяне сумным позіркам, заклапочана глядзіць маці.

— Дзеці, бывае, бачаць больш за нас, — дзед Ляксій спакойна пасмоктвае люльку, абыходзіць куст, пяшчотным дотыкам гладзіць язмінавыя галінкі.

Сякера паўтарае сваю чорную справу раз, затым другі, і трэці, і чарговы, сталёвае лязо ўядаецца глыбей і глыбей у ліпавую мінуўшчыну. Жоўтыя трэскі адшчапляюцца ад пня, рассыпаюцца ў траве, як непатрэбныя, дарма пражытыя дні.

— Хопіць, — ківае галавой стары цясляр. Укленчвае па адзін бок ліпавага ствала, памочнік займае месца на другім баку, іх далоні злучае доўгая піла. Сталёвыя зубы знаходзяць месца адкрытае лязом сякеры, мужчынскія далоні заціскаюцца на ручках пілы, плечы соўгаюць ляніва туды і назад, як сківіцы галоднага мядзведзя, што нечакана, у пачатку зімы, выбіўся са сну. Далоні сінхранізуюцца, знаходзяць рытм, мядзведжы сківіцы, пачуўшы водар ліпавай крыві, паскараюць тэмп і сталёвыя зубы ўгрызаюцца глыбока ў горла старога дрэва.

Задраўшы галаву гляджу, як ліпавы чуб выкоўзваецца з-пад блакітных падэшваў неба. З густой зялёнай кроны пчолы сыплюцца як зерне з дзіравага мяшка, неданошаны мёдападае пылінкамі на выслізганыя камяні брукаванкі. Неба скалыхнулася і сунецца наўпрост на мяне.

— Забярыце малога, — заходзіцца крыкам баба Вера.

— Вазьміце адсюль засранца, заб'е ў-ха-ле-ру! — голас старога цесляра наліваецца трывожным басам.

— Не заб'е, не хвалюйся. Пакуль я тут, не заб'е, — мужчына ў ільняной кашулі трымае спінай ліпавы ствол, босыя раскірэчаныя ногі ўеліся ў зямлю, вочы набеглі крывёй, але ён не адступае.

Расплюшчваю вочы і бачу над сабой вяночак з чалавечых галоў.

— Жывы, — уздыхае з палёгкай маці.

— Жывы, — у куточках бацькавых вачэй паблісквае сляза.

— Жывы, — пальцы бабы Веры робяць знак крыжа над маім тварам.

— Ну і шмыгануў ты, як птушка ў паветры. Быццам хапіў нехта за каўнер і шпурнуў на другі бок вуліцы, — з недаверам круціць галавой дзед Ляксій.

— Гэта ён мяне так, схапіў і кінуў наперад сябе, — здранцвелы язык выціскае словы ледзь чутным шэптам. — А як ён? Паспеў уцячы?

— Хто? — бацька агортвае вуліцу неспакойным позіркам.

— Хто? — здзіўляюцца цесляры.

— Хто дзіцятка? Нікога няма тут кроме нас, — баба Вера падымаецца з каленяў і яшчэ раз, цяпер тройчы, крэсліць на мне знак крыжа. — Спалохаўся да смерці, прывіды бачыць. Ці не прыйдзецца па шаптухах вазіцца.

Прыўздымаюся на локцях, спрабую сесці. Даецца няпроста. Мужчына ў ільняной кашулі прысеў на мёртвую ліпавую калоду і, не зводзячы вачэй, глядзіць на мяне.

„Нармальна ўсё?" — бязгучна пытаюць яго вусны. Моўчкі ківаю ў адказ, а вочы шукаюць бацьку, або бабу Веру, або і старога цесляра.

— Глядзіце, не трэба шаптухі, там ён, сапраўдны, ніякі не прывід.

Бягуць позіркам за маёй далонню, узіраюцца ў ліпавую калоду.

— Да Фіні трэба, у яе найлепшае зелле ад перапалоху. Праўда, куме Ляксію, да Фіні? — у голасе бабы Веры накапіліся ўсе смуткі адыходзячага дня.

— Я б залішне не спяшаўся, — кажа дзед Ляксій. — Часам дзеці бачаць куды больш за нас, дарослых, — увабраўшы галаву ў плечы, кіруецца на сваю лавачку. Лакіраваная ляска пастуквае аб камяні, памазаныя зеленкаватым, несаспелым мёдам.



# На Пятра і Паўла ў Малешах

**Партал Вышкаўскай гміны: „W czasach carskich Malesze były całkiem sporą miejscowością, w drugiej połowie XIX wieku ustanowiono tutaj siedzibę zarządu gminy, powstała gmina Malesze. Słownik Geograficzny z 1890 roku podaje: Malesze — wieś, w powiecie bielskim, guberni grodzieńskiej, na północ od traktu Bielsk-Brańsk, o 14 wiorst od Bielska, z zarządem gminy obejmującej 1 869 dusz”. Вось з гэтай валасной тады мясцовасці ў павятовы Бельск можна было дабрацца пасажырскай коннай павозкай, а жыта або авёс у чацвер на базар завезці цягнутым валамі возам. Ну а ў губернскае Гродна? Поездам, бо ўжо тады працавала Варшаўска-Пецярбургская чыгунка, працаваў публічны транспарт...**

А які цяпер публічны транспарт даходзіць у Малешы? У агульнасці вельмі падобны. І ў ваяводскі Беласток бадай найбольш выгадным сродкам публічнай даправы трэба палічыць тую ж самую, што і паўтара стагоддзя раней, чыгуначную лінію. Праўда, зараз праходзіць чыгуначная лінія і цераз бліжэйшы Бельск, але яна акурат у ходзе рамонту і па ёй не паязды ездзяць, але аўтобусы побач яе; аўтобусы не забіраюць байкаў на борт... З цягніка злажу на прыпынку Здроды і па недалёкай шашы каляшу прасцюсенька ў напрамку важнай калісь вёскі. Шаша прамая і здаецца быць тою самай дарогай, што стагоддзямі раней злучала цэнтры суседніх Бельскай і Віскай зямель — Бельск і Візну.

Да Тапчэва роўны як стол сучасны асфальт, а далей шлях у Малешы крыху можа нагадваць даўні гістарычны. Зараз за Тапчэвам гэтая прамая аж у Малешы дарога набывае палявы характар: дзве каляіны са сфармаваным пратэктарамі вялікага трактара пясочна-жвіровым насцілам. Углядаюся ўяўленнем і наперад, за лінію гарызонту, і назад, у амаль паўтаравяковае мінулае. Магчыма, што ў той час відны былі з тае дарогі купалы новенькай малешаўскай царквы; яна ж, мабыць, высокай была, калі яе, як важны ў баявых дзеяннях назіральны пункт, знішчылі ў 1944 годзе адступаючыя гітлераўцы...

Абапал каляін дарожная паласа шчыльна зарослая рознымі зёлкамі. Часам удаецца пад'ехаць, часам прыходзіцца падысці; па дарозе Тшашчкова і Пяшхалы, а крыху далей збочваю ў бок Шпакоў. Асфальтоўка, якая цераз Шпакі і Малешы злучае гмінныя Вышкі з браньска-бельскай шашою, нагадвае курпёўскую спадніцу — падоўжныя палосы старога асфальту, паміж імі падоўжныя выразныя шчыліны з нясмела зелянеючай расліннасцю. І толькі з гэтай дарогі, калі яна ўзнімаецца на грудок, паказваюцца пасярод зелені блакітныя вяршкі малешаўскай царквы.

У Малешах прыходскае свята Пятра і Паўла. Тамашняя царква акурат „аздоблена” слядамі нядаўніх бур, якія былі пранесліся па нашым наваколлі. Кідаецца ў вочы абдзертая падаючым дрэвам шалёўка, абарваны дашок над уваходам, пагнечаны дах. Царква прайшла рамонт пяць гадоў таму. Ад апальнага дрэва ўжо толькі шырокі пень на цвінтары...

Заходжу ў царкву, усярэдзіне сямёра вернікаў. Папячыцельніца са свечкамі падае від, быццам яна абслугоўвае толькі „оглашэнных”, а ў адносінах да незнаёмага ў яе „Пятроўка”; але свечкі мне прадае. Правіцца акафіст нябесным заступнікам прыхода: „Радуйтеся, святіи первоверховніи Апостоли Петре и Павле...”

На душы ў мяне прыгнечанасць, якая паволі саступае парасткам аптымізму. У царкву прыходзіць штораз больш вернікаў і наступае той момант, на пачатку літургіі, калі ўсярэдзіне робіцца цеснавата і саступаю там месца мясцовым, выходзячы навонкі. І навонкі шмат ужо народу; збіраецца, галоўным чынам, крыху старэйшае пакаленне, бо ж сёлета свята выпала ў сераду, у працоўны дзень. І пропаведзь да гэтага старэйшага пакалення — на кірылічнай мове. І падаецца аб'ява пра шлюб...

У 1860-х гадах узводзяцца ў нашым рэгіёне шматлікія цэрквы. Гэтая з'ява ахоплівае і Малешы, у якіх да таго часу стаяла невялікая драўляная царкоўка. Атрыманыя з царскай казны грошы падаліся дастатковымі адно для ўзвядзення невялічкага храма, а людзям захацелася вялікай царквы; прыход жа налічваў звыш тысячы вернікаў.



■ Дарога са Шпакоў у Малешы



■ Помнік у Шпаках

Таму ў Малешах было прынята рашэнне запусціць у ход цагельню і яе вытворчасць прызначыць на пабудову царквы вялікай. Як задумалі, так і зрабілі. Праца ішла шпарка, штодзённа былі заняты каля паўсоткі чалавек. Новую царкву пабудавалі ў новым месцы — пры дарозе, што адыходзіць у Буйнова. На прыходскае свята Пятра і Паўла ў 1870 годзе адбылося высвячэнне новай, мураванай царквы. А даўнейшую царкву, што была пастаўлена яшчэ ў уніяцкі час на тым месцы, дзе стаіць сённяшняя, перанеслі на могілкі з прысвячэннем Казанскай іконе Багародзіцы...

Да Малешаўскага прыхода належалі вёскі Малешы, Шпакі, Хаева, Лукавіца, Буйнова ды Пухачы і Абрамікі; апошнія дзве да нашага часу сталі прысёлкамі Буйнова. У той час у Хаеве, як падае *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага*, пражывала агулам каля 560 чалавек. Той жа *Слоўнік* пра Буйнова: „wieś i folwark rządowy, niegdy główny starostwa, a potem tak zwanego amtu brańskiego, w pobliżu rz. Nurca, w powiecie bielskim, gub. grodzieńskiej, par. Łubin Kościelny, Niedaleko źródeł rz. Bronki”. Пра Лукавіцу, што зараз у гміне Пасвентнэ: „wieś w gub. grodzieńskiej, w b. ziemi bielskiej”. Варта ўсё ж такі да гэтага апошняга крыху дадаць; пад Лукавіцай у верасні 1863 года ў ходзе Студзеньскага паўстання дайшло да бітвы паўстанцаў з царскім войскам. За гэта пераможцы саслалі жыхароў вёскі ў Сібір, а будынкі спалілі; пасля дванаццаці гадоў можна было вяртацца, што не ўсім удалося. Магчыма, што менавіта тады і з'явіліся ў той вёсцы вернікі ўсходняга абраду. А пры нагодзе — лёс Лукавіцы можна лічыць свайго роду прататыпам пазнейшага лёсу Райска...

Генадзь Семянчук у „Ведамасцях аб этнаграфічным складзе Бельскага ўезда” за 1906 год падае, што ў Малешаўскім прыходзе было тады 1288 праваслаўных душ, з чаго ў Малешах 588 (11 католікаў), у Шпаках 282 (4), у Буйнове 390 (19), у Хаеве 20 (479) і ў Лукавіцы 8 (34)...

Сусветныя войны прынеслі вялікія змены ў складзе насельніцтва. Бежанства ў ходзе Першай сусветнай вайны і „рэпатрыяцыя” — так у выніку агітацыі савецкіх прапагандыстаў, як і актыўных баявых дзеянняў „выклятых жаўнераў” пасля Другой — пакінулі ў Малешаўскім прыходзе менш шасціста вернікаў. Пра савецкіх агітатараў Ірэна Матус: „Wszystkim obiecano samodzielne gospodarstwa rolne, duże i wygodne domy na własność. O kołchozach nikt nie wspominał, gdyż w Maleszach nikt poważnie nigdy nie myślał o takiej ewentualności. Komisarze zapewniali o pomocy i opiece władz państwowych. Padały nawet takie stwierdzenia, że wkrótce sami gospodarze będą zabiegać o wyjazd, ale wtedy będzie z tym trudniej, gdyż nic nie będzie można ze sobą zabrać”.

Гмінны партал: „Brak stabilizacji i poczucia bezpieczeństwa ujemnie wpływał na odbudowę gospodarczą wsi, w której w dzień urzędowała władza ludowa, a w nocy „Leśni”. Obie strony stosowały ostre sankcje za współpracę, nieposłuszeństwo czy domniemaną zdradę. Jedni karali torturami i długoletnim więzieniem, drudzy chłostą lub śmiercią. Często dochodziło do tragicznych pomyłek. Ogólny chaos wykorzystywały wszelkiej maści grupy złodziejskie, które podszywając się pod partyzantów rabowały, nakładały kontrybucje, gwałciły. Odczuły to głównie grupy ludności białoruskiej. Miały one negatywny stosunek do podziemia antykomunistycznego. Wynikało to z częstych napadów i poniżania tej ludności przez siły AK i NZW (Narodowe Zjednoczenie Wojskowe)”.

Вікіпедыя: „Bezpośrednio po wojnie parafia w Maleszach odzyskała samodzielność, jednak około 20 rodzin zostało przymusowo przesiedlonych do ZSRR. 2 lutego 1946 oddział Narodowego Zjednoczenia Wojskowego pod dowództwem Romualda Rajsa („Burego”) zamordował 30 parafian (ze wsi Szpaki i Zanie). Na początku lat 50. XX w. wzniesiono obecną drewnianą cerkiew parafialną, konsekrowaną w 1954. W 1968 do parafii należało 656 wiernych, jednak od tego czasu wskutek migracji ludności do ośrodków miejskich (Białystok, Bielsk Podlaski) liczba parafian uległa zmniejszeniu. W latach 90. XX w. wyremontowano wnętrze cerkwi parafialnej (m.in. pozłocono ikonostas). W 2012 ukończono remont zewnętrzny cerkwi parafialnej (m.in. pomalowano elewację na niebiesko). Obecnie parafianie mieszkają w Maleszach, Bujnowie, Szpakach, Świrydach, Brańsku i Zaniach (wierni z tych dwóch ostatnich miejscowości korzystają z cerkwi filialnej). Pod koniec XX w. parafia liczyła ok. 350 osób”.

Вяртаюся ў Беласток крыху іншай дарогай, цяпер цераз Шпакі. На канцы вёскі помнік ахвярам „Бурага”, помнік моцна ўстарэлы, эпітафію на ім ужо ледзь відаць; яшчэ пяць-шэсць гадоў і яна стане нявідкай, таемным прывідам...

У цэнтры гмінных Вышак высокі крыж, а пад ім *credo*: „Bóg, honor, ojczyzna”. Далей Ігнаткі, Асоўка. Гмінны партал: „Obecnie wieś ma nazwę Ignatki, lecz pierwotnie było inaczej. Była to wioska zamieszkała przez drobną szlachtę. Pierwsze zapisy pochodzą z 1528 roku, kiedy to notowano niewielką wioskę Seło Gnatowe zemiane w parafii Topczewo. Była to ówcześnie średniej wielkości wioska licząca 6 rycerzy. Niewątpliwie miejscowi rycerze przybyli tutaj z terenów Polski lub Mazowsza, niektórzy nosili przydomek Gnat i to właśnie ten przydomek stał się nazwą wioski — Gnaty. Być może pochodzili z okolic Warszawy (ziemia zakroczymska), gdzie notowano miejscowość Gnaty i Gnatowskich herbu Łada”. Пра імя Ігнат аўтар знявольваючай этымалогіі не чуў; або не хацеў чуць. Не толькі гісторыя, але і этымалогія прасякнуты сучаснай палітыкай. Супраць ветру не падзьмеш...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (15)



У Чахах-Арлянскіх я меў знаёмых. Адтуль выходзіў цясляр Арцём Данілюк. Пасля вайны ў Кузаве будаваў дамы. У гэтым майстэрстве дапамагаў яму сын Толік. Паколькі ў Чахах зямля была ненайлепшай якасці, людзі жылі небагата. Кузава межавала з Чаромхай-Станцыяй, якая лічылася чыгуначным цэнтрам. Лягчэй было працаўладкавацца ў чыгуначным прадпрыемстве. Арцём пасватаў сыну дзяўчыну ў Кузаве. Згулялі вяселле. Раней дваюрадны брат Толіка, Янка Данілюк, ажаніўся ў Кузаве.

У Чахах-Арлянскіх была школа. Паколькі ў сяле не было святліцы, дык ранішнікі для дзетак і вечаровыя сеансы для дарослых арганізавалі ў школьнай зале. З настаўнікаў я нікога не запамятаў, бо ў сяло заязджалі нерэгулярна. Мае кантакты зводзіліся адно да праштампавання службовай камандзіроўкі ў канцылярыі. Калі мы ўпершыню заехалі ў Чахі з кінаперасоўкай, дык я наведаў цесляра. У Арцёма было яшчэ двое дзетак — Аркадзік і Марыся. Запрасіў іх у кіно. Гэта была мая кампанія для сяброўскіх сустрэч у пазнейшых гадах. Нагода прыгадаць мінулае Чахоў-Арянскіх трапілася сёлета ў траўні ў Гайнаўскім шпіталі. На рэабілітацыйным аддзяленні кампаньёнам па палаце быў дзядуля з Барысаўкі, Пятро Ялоза. Яго наведвала жонка. У час знаёмства выявіла, што выходзіць з Чахоў-Арлянскіх. Вось яе аповед:

— Прыпамінаю, што ў сяло прыязджала кіно, — пачала 75-гадовая Марыя Ялоза. — Але пра кіношнікаў не скажу больш, абмяжуюся да сямейных успамінаў. У сям'і было нас шасцёра дзетак, двух хлопцаў — Сцёпа і Коля і чатыры дзяўчынкі: Оля, Гандзя Ніна і я, самая малодшая. Нарадзілася я ў 1941 годзе. Бацькамі былі Іван і Параскева. Бацька з Бобінкі выходзіў. Мелі чатырнаццаць гектараў поля. Гандзя выйшла замуж у сваёй вёсцы, Ніна ў Вэрсток, а я за Пятра Ялозу з Барысаўкі. У мужа быў брат Андрэй, настаўнік. Вучыў у Трывежы. У Барысаўцы кіраўніком быў тады Васіль Гацута. У школе кватараваўся з жонкаю Кацярынай, настаўніцай, і дочкамі Алінай і Ірэнай. Пры нагодзе ў Барысаўцы сустракаліся пры святочным застоллі. Пасля смерці бацькоў мы з Петрусём вымушаны былі заняцца гаспадаркай. Няўгоддзі рашылі засадзіць лесам. Пакінулі адно гектар лепшага поля пад пасевы. Муж канём араў поле, а мы з дзецьмі займаліся пасадкай. Калі не хапіла саджанцаў, дык я паехала ў Гайнаўскае надлясніцтва. Не ведала да каго падацца. На калідоры сустрэла пухкага мужчыну. Гэта быў надляснічы. У размове прызналася, што займаемся пасадкай лесу і не хапіла нам саджанцаў. Да нас падышоў ляснічы. Начальнік загадаў яму ўладкаваць справу. За два дні прыехалі два трактары. Зааралі наша поле. Пасадкай заняліся вучні Ляснога тэхнікума ў Белавежы. Пасля я маёмасць у Чахах прадала. За гэтыя грошы пабудаваліся ў Гайнаўцы. Дзяцей забяспечылі кватэрамі. Абодва сыны жывуць непадалёк шпіталя, дачка на Юдзянцы.

З далейшай размовы я даведаўся, што Арцёмавы дзеці Аркадзік і Марыся з другога сужонства. Марыся засталася ў сваёй вёсцы, Аркадзік ажаніўся ў Пагулянцы. Няма ўжо ў жывых. Памерлі Толік і Янка Данілюкі ў Кузаве. Вось такі эпілог маіх успамінаў як кіношніка аб Чахах-Арлянскіх. Аб далейшых падарожжах у наступным нумары.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

# Больш дошак аб'яў

У некаторых вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ёсць па дзве або тры дошкі аб'яў. Тры дошкі мае, між іншым, салэцтва Плянта, дзве Старое Ляўкова. Ад 3 ліпеня гэтага года шэсць дошак аб'яў мае салэцтва Новае Ляўкова (дзве ў вёсцы і чатыры на калёніі). Шостую паставілі на вуліцы каля агратурыстычнай кватэры «Бора-здруй» на новаляўкоўскай калёніі. Яны патрэбныя жыхарам вёскі і турыстам. На дошкі солтысы прычапляюць, між іншым, паведамленні Гміннага ўпраўлення ў Нараўцы, афішы і плакаты пра культурна-забаўляльныя імпрэзы ў Нараўчанскай гміне і ў суседніх з ёю гмінах.

Летам у Нараўчанскай гміне даволі многа забаўляльных мерапрыемстваў. Некаторыя з іх — перш-наперш канцэрты — адбываюцца ў амфітэатры ў Старым Двары над Семяноўскім возерам. А зараз вось так, 7 ліпеня г. г. гмінныя ўлады ладзяць Купальскую ноч у амфітэатры ў Нараўцы і 12 ліпеня г. г. (у Ляўкове прыхадскае свята Пятра і Паўла) беларускі фэст у Старым Ляўкове. Солтыс прычапіў на дошкі аб'яў дванаццаць каляровых плакатаў. Вось дык шырокая інфармацыя!

**(яц)**




**http://ostrogorski.academy**

Яшчэ ў першыя гады наступіўшага стагоддзя цяжка было ўявіць навучанне праз існуючы ўжо ў той час інтэрнэт. Але прайшло літаральна з дзясятак гадоў і навучанне анлайн стала звычайнай практыкай, у прыватнасці, для набыцця вышэйшай адукацыі. Для Беларусі, дзе якасць вышэйшай адукацыі за апошнія гады значна знізілася, такая магчымасць вельмі карысная для тых, хто хоча атрымаць якасныя веды.

Не так даўно ў сусветным павуцінні з'явіўся сайт „Акадэміі Астрагорскага", які месціцца па адрасе **http://ostrogorski.academy**. „Акадэмія Астрагорскага — гэта некамерцыйны асветніцкі праект, прысвечаны распаўсюду гуманітарных ведаў. Акадэмія — гэта своеасаблівы беларускі анлайн-універсітэт, у аснове якога цыклы лекцый на важныя і цікавыя тэмы. Кожны цыкл лекцый чытаецца вядомымі беларускімі экспертамі з Беларусі і замежжа, а таксама ўключае графічныя ілюстрацыі, транскрыпты лекцый, электронную кнігу, падкасты і спасылкі на дадатковыя крыніцы інфармацыі", — гаворыцца ў рубрыцы „Пра Акадэмію", выйсце на якую месціцца ўверсе галоўнай старонкі. Увогуле будова сайта даволі простая, а навігацыя па ім — зразумелая. Гэта вельмі прыбаўляе нават выпадковага наведвальніка, бо нечакана для сябе ён адразу атрымлівае практычна ўсю інфармацыю аб першым беларускім анлайн-універсітэце.

Згодна з інфармацыяй, пададзенай на прэзентацыйнай старонцы, місія, якую абрала для сябе „Акадэмія Астрагорскага", вельмі высакародная. Так, як выкладчыкі лічаць, што кожны павінен мець магчымасць навучацца на роднай мове з любой кропкі свету, а доступ да высакаякаснай адукацыі дасць штуршок да развіцця ўсёй Беларусі. „Мы прыцягваем найлепшых беларускіх навукоўцаў, якія працуюць на Захадзе і ў Беларусі, каб прынесці інавацыі ў беларускае навучанне", — сцвярджаюць яны. Вельмі важна і тое, што большасць матэрыялаў акадэміі прадстаўленая на беларускай мове. „Гэта вынікае з нашага пераканання, што поспех Беларусі ў значнай ступені звязаны з развіццём уласнай ідэнтычнасці", — упэўнены вучоныя.

На цяперашні момант „Акадэмія Астрагорскага" прапануе анлайн-навучанне па чатырох накірунках. Гэта — курсы па міжнародных фінансавых інстытутах, эканамічных крызісах, сучаснай дыстанцыйнай і бізнес-адукацыі, па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Кожны курс складаецца з лекцый і тэстаў, якія праз пэўныя прамежкі часу мусяць здаваць навучэнцы.

Згодна з прадстаўленай інфармацыяй у рубрыцы „Выкладчыкі", свае веды інтэрнэт-карыстальнікам перадаюць шасцёра навукоўцаў і спецыялістаў. Гэта — Яраслаў Крывой, заснавальнік акадэміі, эканаміст Кацярына Барнукова, старшы юрыст Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Тарас Стараселец, выкладчык Інстытута бізнесу і менеджменту тэхналогій Белдзяржуніверсітэта Радзівон Марозаў, доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч і выкладчык Школы бізнесу Адкрытага ўніверсітэта Вялікабрытаніі Руслан Раманаў.

Адметна, што за свае лекцыі і спраўджванне тэстаў супрацоўнікі „Акадэміі Астрагорскага" не просяць нейкай аплаты ад навучэнцаў. Разам з тым на сайце ёсць магчымасць пералічыць які-кольвечы дабрачынны ўнёсак на яе рахунак.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

Волат беларускай прозы



# 100 гадоў з дня нараджэння Янкі Брыля

Беларускі народны пісьменнік Янка Брыль нарадзіўся 4 жніўня 1917 г. у Адэсе. Сям'я яго апынулася там таму, што бацька быў рабочым-чыгуначнікам. У Адэсе Брылі жылі з 1914 да 1922 года, пасля чаго вярнуліся ў родную вёску Загора на Навагрудчыне (цяпер у Карэліцкім раёне). Менавіта там на Міршчыне ўлетку праводзіў апошні час свайго жыцця Янка Брыль, вяртаючыся ў сталіцу толькі ў халодную пару году. Мяркуючы па выдадзеных кніжках, плённа працаваў астатнія гады.

За свой не кароткі, адведзены лёсам, век пісьменнік спазнаў розныя палітычныя рэжымы, перажыў цэлую эпоху. Першую адукацыю Янка Брыль атрымаў у мястэчку Турэц у польскай сямігадовай школе. Пасля ў 1931 г. паступіў у Навагрудскую гімназію, але вучыцца там не здолеў з-за беднасці сям'і. Займаўся самаадукацыяй, надзвычай шмат чытаў. У сакавіку 1939 г. быў прызваны ў войска польскае, служыў марскім пехацінцам у Гдыні. Калі пачалася Другая сусветная вайна, давялося ваяваць на самай перадавой. Пасля капітуляцыі польскага войска трапіў у палон, прымусова працаваў рознарабочым у Нямеччыне. Разам з двума сябрамі ўцёк з палону. Вярнуўшыся на радзіму, падаўся ў партызаны. Пасля вайны працаваў у Менску ў рэдакцыях розных беларускіх выданняў, у Саюзе пісьменнікаў БССР. Тагачасная ўлада ў значнай ступені шанавала пісьменніка, мусіла лічыцца з яго аўтарытэтам.

У апошнія дзесяцігоддзе Брыль быў далёкі ад палітычных жарсцяў і цураўся іх, не ўдзельнічаў у апазіцыйных рухах, надзвычай рэдка сустракаўся з журналістамі. Відаць, адчуваў сваю самадастатковасць. А можа быў знявераны ў пазітыўных зменах у найбліжэйшы час. Але Брыль не быў толькі творцам „чыстай красы", чалавекам у сабе. Свае погляды і перакананні выказваў наўпрост.

Янка Брыль быў чалавекам не толькі беларускай, але і агульнаславянскай культурнай прасторы — праз многія гады шчыра сябраваў, перапісваўся з вядомымі і знакамітымі пісьменнікамі розных краін. У 1994 годзе маладая беларуская дзяржава прызнала яго ганаровым акадэмікам Акадэміі Навук Беларусі, Брыль быў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны. А пасля гэтага новыя бальшавікі, якія дарваліся да ўлады, пастараліся адсунуць народнага пісьменніка ў нябыт. Калі памерла жонка Брыля, ён прасіў месца на Усходніх могілках, дзе пахаваны многія беларускія пісьменнікі і дзе яму было загадзя гарантавана пару квадратных метраў. Аднак, для жонкі там месца не далі і таму Брыль загадзя вызначыў, што ён таксама не будзе ляжаць на Усходніх могілках. Памёр пісьменнік 25 ліпеня 2006 года. Паводле тастаменту творца пахаваны побач з жонкай у мястэчку Калодзішчы пад Менскам.

Янка Брыль стаў хросным літаратурным бацькам для некалькіх пакаленняў беларускіх творцаў, быў сапраўдным волатам айчыннай прозы. Пакінуў пасля сябе зборнікі апавяданняў і мініяцюр, а таксама фактычна аўтабіяграфічны раман „Птушкі і гнёзды", які ўвайшоў у скарбонку класікі беларускай літаратуры. Уся яго творчасць прасякнута глыбокім, чыстым пачуццём да сваёй радзімы. Шчырае, сумленнае служэнне роднай зямлі, роднаму народу было галоўнай мэтай і сэнсам яго жыцця. Брылю належаць такія афарыстычныя словы: „Калі б беларуса прымусіць быць беларусам, які б атрымаўся выдатны беларус!". 26 верасня 2007 г. імя пісьменніка атрымала вуліца ў мінскім мікраёне Міхалова. 26 жніўня 2009 г. імя Янкі Брыля было нададзена адной з вуліц Гдыні.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У палескай глыбінцы (93)



Дзікія і хатнія птушкі на возеры Нобель

Я не ведала, што ёсць на зямлі такія месцы, дзе кожны вучань абавязаны запамятаць імя Скоманда. Праўда, асобу апошняга яцвяжскага ваяра прадстаўляюць тут не дзеля ягонай славы, а толькі таму, каб усвядоміць, з якім праціўнікам прыйшлося змагацца сярэднявечным наблянам. Паўло Савіч, аўтар легенды пра абарону княжага града *Нэбель* у 1262 годзе, адначасова аддаў ганаровы салют у бок вялікага яцвяжскага ваяра.

У час, калі Галя Багдановіч пявучым голасам чытала мне легенду пра яцвяжскага ваяра, я здзіўлялася нечаканай выпадковасці. У Нобель прывялі мяне вікінгі, аднак замест іх на месцы прывіталі яцвягі. Ды і сама легенда, у меладычнай Галінінай дэкламацыі, больш як мясцовыя былі напамінала скандынаўскую сагу. Каб падбіць яе верагоднасць, сам Савіч, быццам прыпеў, паўтараў адну фразу: *як гаварылі найстарэйшыя жыхары Нобеля...*

І хоць уся гісторыя зводзілася да ўзвышэння галіцка-валынскага князя Васілька, мяне ўразіў палескі погляд на яцвягаў. Рэха іх ваяўнічай славы адзывалася з-пад зямлі, то-бок з тоняў возера Нобель, якое само па сабе явілася вялікім яцвяжскім могільнікам.

* * *

Паўло Максімавіч Савіч, колішні кіраўнік сельсавета, надта імкнуўся запоўніць гістарычны прабел, які ахінаў іх славутае мястэчка ў савецкія гады. Сваю легенду аснаваў на гістарычнай звестцы, знойдзенай у Рускім летапісе пад датай 1262 года.

Лаканічнасць гістарычнай звесткі штурхнула яго ў бок неўтаймаванай фантазіі, у выніку якой галава Скоманда апынулася ажно на дубовым палі...

— А ці ёсць у вас магіла Скоманда? — спыніла я меладычны паток слоў...

— Няма! — адрэзала Галя Багдановіч.

Папраўдзе цяжка злічыць усе магілы апошняга ваяра яцвягаў. Адна з іх знаходзіцца каля нашых Коматаўцаў (брутальна пераназваных на Chomontowce), іншая ў Кярснуўку пад Браньскам, яшчэ іншая ў Скомацку непадалёк Элка. Нобель перавышаў усе названыя мясціны дзявочай прыгожасцю і недаступнасцю, ды найбольш падыходзіў на месца спачынку легендарнага ваяра-чарадзея. З другога боку адчувалася шкадаванне, паколькі Паўло Савіч усмерціў яцвяга ўжо ў 1262 годзе. У святле гістарычных крыніц бурлівае жыццё яцвяжскага чарадзея прадоўжыцца яшчэ на 23 гады. Скоманд узначаліць II Прускае паўстанне супраць тэўтонцаў, а пасля паразы будзе самотна змагацца з імі ажно да 1283 года. У міжчасе павядзе ваенныя аблавы на Холмжу ў 1263 і 1277 гадах. Скоманд, які дачакаўся столькі легендарных магіл, згодна з паэтыкай скандынаўскіх саг не памрэ на вайне. Напрыканцы жыцця пойдзе служыць крыжаносцам, каб такім чынам зберагчы жыццё сотняў аднапляменцаў. Частка іх паселіцца ў згаданым ужо Скомацку каля Элка, дарэчы, расслаўленым мазурскім паэтам Міхалам Кайкам, які ў першай палове XX стагоддзя не атаясамляў жыхароў роднага Скомацка з нямецкім народам.

* * *

Тым часам Скоманд у нобельскай легендзе напамінаў камбінацыю некалькіх гістарычных асоб часоў Сярэднявечча.

Паўло Савіч называе яго вялікім чарадзеем, які прагнуў уладарыць Палессем і стаць яму адзіным каралём. Схадзіць з аблогай на Нобель звабілі яго чуткі пра казачныя багацці горада. Тое, што здавалася немагчымым для іншых, для Скоманда давалася проста і лёгка. Ён бязгучна, разам з дружынай перамяшчаўся па палескіх балотах, азёрах і рэчках, нюхам абмінаў небяспекі і прыродныя пасткі, разумеў мову птушак і дрэў, размаўляў з ветрам. Першы паход на Нобель здзейсніў у цёплую пару года.

*— Яцвягі, як зграя ваўкоў, кінуліся штурмаваць замак, але нобельцы, як адзін муж, паўсталі мурам*, — заяўляе аўтар легенды. Узбудараваны Скоманд адступае, аднак не здаецца. Ён абяцае вярнуцца разам з марозам, калі лёд скуе вялікае возера і адкрые дарогу на замак. Менавіта той другі паход здзяйсняецца ў марозны 1264 год. Зноў лютай зграяй ваўкоў яцвягі дабіраюцца па замерзлым возеры да варот замка. У палове дарогі чакае непрыемная навіна. Насупраць выходзіць славуты валынскі князь Васілька з дружынай. Яцвягі згодна са сваім звычаем, — піша Савіч, — фармуюцца ў тры рады. Пачынаецца зацятая сеч. У гэты раз шчасце было на баку валынян, дапамагае ім Божая Маці і асабліва маці-прырода. Чырвонае ад крыві возера не стрымлівае цяжару, ломяцца крыгі, недабіткі патанаюць у ледавітых тонях. Прадбачлівы Васілька абставіць усё возера войскам, таму ні адзін яцвяг не выйдзе адсюль жывым. Вядома, ацалее адзін чарадзей Скоманд, які пад заслонай крыгі, нейкім цудам выкараскаецца на бераг. Не пашанцуе яму вярнуцца на радзіму, якую аўтар памяшчае «дзесьці на поўначы, ля берагоў Нёмана». Яна занятая ўжо тэўтонцамі. Ды сам Скоманд рашае застацца разам са сваім войскам і ўступае ў апошні адчайны бой, каб аддаць свой дух. Гіне з рук набляніна Радовіча, які таксама памірае з рук Скоманда. Галаву яцвяжскага чарадзея, набітую на дубовы паль, згодна з ваеннай цырымоніяй заносяць князю Васільку.





Протаіерэй Міхайл і матушка Марыя Пракаповічы

А храбраму ваяру Радовічу сучасныя набляне паставяць дубовы крыж ля царквы, які прыаздобіць занатоўкай з Рускага летапісу.

* * *

Белая царква, якой захапіўся ў час свайго першага падарожжа Сяргей Грахоўскі, узвышаецца на высокім узгорку. Набляне пабудавалі яе за рыбу ў 1927 годзе. Баба Марыя з урочышча *Ражок*, найстарэйшая жыхарка Нобеля, запамятала, што рыбу скуплялі жыды. За зробленыя грошы мужчыны набывалі цэглу, якую дастаўлялі чаўнамі з Пінска. Пабудова доўжылася некалькі гадоў.

Месца наведала я на золку, яшчэ перад усходам сонца. З высі царкоўнай гары, якая напамінала курган, распасціраўся чароўны від на возера. На ўзгорку знаходзіўся стары могільнік, дзе пакоіўся святарскі род Пракаповічаў. Напаміналі арыстакратаў, якія насупраць нягодам і здзекам рашылі дажыць на сваім месцы. Протаіерэй Міхайл Пракаповіч быў па прафесіі лекарам, разам з духовай паслугай лекаваў прыхаджан.

Надпіс на крыжы ў гонар ваяра Радовіча скапіраваны з Рускага летапісу, канчаткова расчараваў мяне. Ні адным словам не ўпамінаецца ў ім пра яцвягаў і бясстрашнага чарадзея Скоманда, якога так прыгожа адмаляваў Савіч. Аўтар легенды гаворыць пра прывіды яцвягаў, якія ноччу ажываюць на возеры. Адтуль даносяцца крыкі і скрыгат мячоў, — так расказалі яму найстарэйшыя жыхары Нобеля.

А летапісная звестка ў перакладзе на беларускую мову гучыць так: *Раць літоўская пустошыла гэтай нядзелі ваваколле Мельніцы. Быў з імі ваявода Тюдзямінавіч Ваўдзіжад, і ўзялі яны вялікія здабычы. Таму князь Васілько пайшоў іх следам з сынам сваім Владзімірам. І з ваярамі сваімі, і слугамі, паклаўшы спадзяванне на Бога і Прачыстую Яго Маці і сілу Чэснага крэста. І дагналі яны іх каля Нэбля горада. Літва стаяла пры возеры Нэблі, але пабачыўшы войскі, сфармаваліся яны ў тры рады, за шчытамі, па сваім звычаі. Васілько тым часам размеркаваў свае войскі і пайшоў супраць іх. І сцяліся яны абое. І Літва не вытрымаўшы, кінулася наўцёкі. Але не можна было ўцячы, бо возера было абстаўленае навокал. І тады сталі секчы іх, а іншыя ў возеры патанулі. І так перабілі ўсіх, і не астаўся з іх ні адзін. Пачуўшы пра гэта князі пінскія Федар, Дэмід і Юрый, прыйшлі да Васілька і сталі яны весяліцца. Бачачы, што ворагі іх пабітыя, а свая дружына цэла. Толькі адзін быў забіты із войска Васілька, Перабор, сын Сцяпана Радовіча.*

*Пасля гэтага князі пінскія пайшлі да сябе, а Васілька да горада Владзімір з перамогай і вялікай чэсцю, перадаць славу і хвалу Богу за тое, што дапамог перамагчы і кінуць пад ногі ворага Валынскаму князю. Летапіс Рускі 1264.*

Варажскія прывіды аднак не адпускалі мяне. Нечакана, проста з царкоўнага ўзгорка патрапіла я ў закутак, які напамінаў сучасную Нарвегію. У роўненькім радку выстойвалі дамы-гасцініцы, якія пабудавалі мясцовы бізнесовец, раптам разбагацеўшы на бурштыне. Я падумала, што легенды пра Скоманда паслужылі Паўлу Савічу як заменнік чагосьці страчанага і забытага. Магчыма, што тутэйшыя старажылы распавядалі яму пра чарадзея-ваяра, які пакінуў па сабе варажскае імя іх мясціне.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 32